# БЯРОЗКА



МАЙ—ЧЭРВЕНЬ ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ 1946 г. 5—6

# БЯРОЗКА

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!*

№ 5—6
МАЙ—ЧЭРВЕНЬ

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



*28 чэрвеня г. г. спаўняецца чатыры гады з дня смерці народнага паэта БССР ЯНКІ КУПАЛЫ.*

*НА ЗДЫМКУ — заслужаны дзеяч мастацтва А. Глебаў за работай над праектам помніка ЯНКУ КУПАЛУ.* Фота А. Дзітлава.



# МІХАІЛ ІВАНАВІЧ КАЛІНІН

3 чэрвеня пасля цяжкай хваробы памёр Міхаіл Іванавіч Калінін.

З глыбокім жалем сустрэў гэтую сумную вестку ўвесь совецкі народ. Па усёй краіне адбыліся жалобныя мітынгі.

Пяцьдзесят год свайго жыцця Міхаіл Іванавіч Калінін аддаў барацьбе за справу працоўных. Ён быў верным саратнікам Леніна і Сталіна.

Дваццаць сем год таварыш Калінін нястомна працаваў на адказным пасту кіраўніка Вярхоўнага органа Совецкай дзяржавы.

Мудры, просты, блізкі народу таварыш Калінін заслужыў гарачую любоў і павагу ўсіх працоўных.

Міхаіл Іванавіч Калінін быў вялікім другам і мудрым настаўнікам піонераў і школьнікаў. Ён па-бацькоўску клапаціўся аб тым, каб совецкія рэбяты добра вучыліся, раслі здаровай, бадзёрай зменай комсамольцам і комуністам.

Схіляючы галовы перад труной Міхаіла Іванавіча Калініна, піонеры і школьнікі Совецкага Саюза пакляліся: вучыцца з такой-жа ўпартасцю, з якой усё жыццё вучыўся Міхаіл Іванавіч Калінін; быць такімі-ж настойлівымі і нястомнымі ў працы, як Міхаіл Іванавіч Калінін; быць верным Радзіме, народу, таварышу Сталіну, якім да апошняй хвіліны свайго жыцця быў Міхаіл Іванавіч Калінін!



# Парад Перамогі

*(Апавяданне хлопчыка)*

Мы з дзядзькам Міцям прышлі на Красную плошчу раней. Войскі ўжо сталі на ёй роўнымі радамі. Я хацеў падыйсці да іх і разглядзець, дзе стаіць мой тата, але дзядзька ўзяў мяне за руку і павёў да маўзалея Леніна.

Мы падышлі да маўзалея і селі на каменную лаўку. У дзядзькі Міці нага паранена, і ён не можа доўга стаяць.

Я ўсё шукаў тату, але не мог яго адразу бачыць—вельмі шмат байцоў і афіцэраў стаяла перад намі. У кожнага на грудзях былі ордэны: гэтулькі ордэнаў, што яны цягнуліся ад чалавека да чалавека доўгай бліскучай палосаю.

— А кожны ордэн дадзены за подзвіг!—сказаў дзядзька.—Якія тут людзі стаяць! Разумееш.

Я стаў чытаць назвы франтоў залатымі літарамі на чырвоным: «Ленінградскі», «1-ы Беларускі»... І адразу ўбачыў тату.

— Вось ён!—закрычаў я.—Гэта мой тата стаіць. Вунь—палкоўнік, такі высокі.

Дзядзька Міця паглядзеў і кажа:

— Правільна, гэта Саша стаіць.

Каля таты байцы трымалі баявыя сцягі. Пад гэтымі сцягамі нашы войскі біліся за Берлін. Тата нам расказваў: «Уся радзіма была з намі ў цяжкі час і спадзявалася на нас. Вось мы і біліся добра».

На Спаскай вежы залатая стрэлка на гадзінніку падышла да дзевяці. І на трыбуну пачалі выходзіць Молатаў, Калінін, Варашылаў.

І з імі вышаў Сталін.

Сталін спыніўся і стаў глядзець на

плошчу, а я глядзеў на Сталіна. Мы ўсе ўсталі і ўсе глядзелі на яго.

Калі на нас напалі немцы, Сталін ведаў, што рабіць кожнаму, каб мы перамаглі. Ён адразу сказаў, што вораг будзе разбіты. Так усё і вышла, як Сталін казаў.

— Глядзі, вунь Ракасоўскі выехаў,— сказаў дзядзька.

Я ўбачыў, як Ракасоўскі на гнядым кані імчыцца насустрач маршалу Жукаву. Жукаў быў на белым кані. Ён ехаў перад войскамі і вітаўся з імі. І яму адказвалі: «Здравія жадаем, таварыш маршал!»

Тут загрымеў такі салют, якога яшчэ ні разу не было. У гонар нашай перамогі і ў гонар таварыша Сталіна. Тата мне казаў: «Ён галоўны баец за нашу перамогу».

Потым пайшлі войскі. Ад кожнага фронта на парад перамогі сабралі полк з лепшых салдат і афіцэраў.

Спераду кожнага ішоў камандуючы фронтам маршал і яго генералы, а за імі роўнымі радамі — чырвонаармейцы. Яны прама глядзелі перад сабою і моцна адбівалі шаг.

Перад трыбунай усе яны разам паварочвалі галаву направа і віталі таварыша Сталіна.

Мне вельмі спадабаліся маракі. Яны былі ў сініх гарнітурах і ў белых шапачках без брылёў. Яны ішлі плаўна, нібы сіняя хваля з белым грэбенем.

Калі пайшоў 1-ы Беларускі фронт, я не заўважыў, і раптам бачу: мой тата ідзе і зусім блізка ад мяне. Я зарадаваўся і як крыкну:

— Тата!

Але тата не аглянуўся і прайшоў.

Калі прайшлі ўсе фронты, на плошчы зрабілася пуста. Але вось паказаліся яшчэ байцы: яны адусюль былі відаць. Яны неслі белыя з чорным і жоўтым сцягі, апушчаныя ўніз так, што краі іх дакраналіся зямлі.

— Гэта нямецкія сцягі, адабраныя ў баях,—сказаў дзядзька Міця.

Чырвонаармейцы падышлі да трыбуны. Першы з іх павярнуўся і кінуў сцяг да падножжа маўзалея. І другі кінуў, і трэці. Цэлая гара фашысцкіх сцягоў вырасла перад Сталіным.

Потым я ўбачыў сувораўцаў. Яны ішлі вельмі добра, як сапраўдныя чырвонаармейцы. І я падумаў: «Папрашу тату, няхай ён мяне аддасць у Сувораўскае вучылішча».

Тут пайшла наша артылерыя. Я вельмі люблю гарматы і зараз іх пазнаваў: якая якога калібра. З кожнай гарматай ехаў яе разлік: байцы, якія з яе страляюць. За імі з'явіліся самаходныя гарматы і танкі. А Сталін усё стаяў і глядзеў на сваю армію. Дзядзька сказаў мне:

— Ну вось, мой хлопчык, сягоння ты бачыў самых дастойных і смелых людзей нашай Радзімы.

І пагладзіў мяне па галаве.

**Н. Емельянава.**



# ПА ШЛЯХАХ ПЕРАМОГІ

## *У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны*

Шмат гора і пакут выпала на долю беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Але ні віселіцы, ні турмы, ні канцлагеры не запалохалі нашага народа. Сваёй гераічнай барацьбой на фронце і ў партызанскім тылу беларускі народ упісаў слаўную старонку ў гісторыю Айчыннай вайны.

Яшчэ на захад каціўся гул нашых гармат, а ўжо ў Мінску, на Пляцы Волі, пачаў стварацца Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Праз два месяцы была адкрыта выстаўка аб партызанскай барацьбе ў Беларусі.

Партрэтам вялікага палкаводца—Генералісімуса таварыша Сталіна адчыняецца выстаўка «Узбраенне беларускіх партызан». Побач—партрэт кіраўніка партызанскага руху П. К. Панамарэнка.

З розных відаў узбраення, што знаходзіцца на выстаўцы, асабліва цікавіць гледачоў навейшы тып агнямёта і мільённы пісталет-кулямёт завода імені



*Мільённы аўтамат—падарунак рабочых завода імені Сталіна таварышу П. К. Панамарэнка.*



*Уваход у Музей.*

Сталіна, прысланы ў падарунак тав. Панамарэнка.

Тут мы бачым больш сямідзесяці відаў самаробных партызанскіх аўтаматаў. Вось, напрыклад, аўтамат, зроблены ў атрадзе імені Катоўскага ружэйным майстрам Цемяковым. У цяжкіх і небяспечных умовах Цемякоў зрабіў 102 такіх аўтаматы. А вось—ружжо-гранатамёт. Гранату да яго прыдумаў партызан-інжынер Шаугулідзе.

Цяжка было спачатку партызанам здабываць зброю. Усё прыходзілася рабіць самім. І тут, на выстаўцы, паказана майстэрня, у якой выраблялася differently рознастайная зброя: вінтоўкі, аўтаматы, гранаты і інш. З гэтай зброяй партызаны

нападалі на нямецкія абозы, падрывалі эшалоны.

У наступным зале паказан асноўны від узбраення партызан—захопленыя трафеі. Тут італьянскія і румынскія вінтоўкі, французскія, венгерскія, фінскія і нямецкія аўтаматы і кулямёты. Сярод зала стаіць цікавая 45 мм пушка. Дула яе вынута з захопленага танка і пастаўлена на калёсы з-пад жняяркі.

Кожная вінтоўка, аўтамат ці кулямёт маюць сваю цікавую гісторыю. Вось кулямёт з партызанскай брыгады «Буравеснік», захоплены ў гарачым баю пад Амельна. У гэтым-жа баю партызаны забілі з гэтага кулямёта 30 нямецкіх салдат. А побач нямецкая зенітная пушка з атрада імені Комсамола, з якой партызаны збілі варожы самалёт.

На сценах пакояў вісяць партрэты герояў-партызан і кіраўнікоў партызанскіх злучэнняў.

Спецыяльнае месца ў Музеі адведзена паказу падпольнага друку 127 падпольных друкарняў. Яны друкавалі газеты, лістоўкі і нават кніжкі, якія заклікалі народ да помсты нямецкім злачынцам.

У сярэдзіне 1945 г. у Музеі адкрыта выстаўка «Злачынствы немцаў на Беларусі». Гэта выстаўка расказвае аб страшных жахах фашысцкага разбою на беларускай зямлі. Руіны Мінска, папялішчы сёл і гарадоў, катаванне совецкіх грамадзян, нарэшце, вядомы ўсяму свету «лагер смерці»—Трасцянец,—усё гэта паказвае твар лютых нямецка-фашысцкіх злачынцаў.



*Самадзельныя аўтаматы.*



*Партызанская гармата.*

Мінуць гады, мы адбудуем свае гарады, зноў зацвітуць калгасныя палі,—і людзі, прыходзячы ў Музей гісторыі Айчыннай вайны, з жахам будуць успамінаць цяжкія дні нямецкай няволі і радавацца за свой беларускі народ, які ў сям'і дружных народаў Совецкага Саюза адстаяў сваё шчасце, сваю совецкую Радзіму.

**В. Сікорскі,**
навуковы супрацоўнік Музея.

Фота Н. Латышэўскага.




# БАБРУЙСКІ „КАЦЁЛ“

*Л. БАЙДАКОЎ*

Шмат бітваў было на Бярэзіне. У 1812 годзе на берагах гэтай ракі знайшлі свой бясслаўны канец арміі Напалеона. Два гады таму назад Бярэзіна стала сведкай другой гістарычнай бітвы. У чэрвені 1944 года войскі Першага Беларускага фронта акружылі тут вялікую групіроўку праціўніка. Гэтае акружэнне вядома пад назвай «Бабруйскага катла».

Бабруйскі ўмацаваны раён быў правым флангам цэнтральнай групы нямецкай арміі, праз які праходзілі найкарацейшыя шляхі да Баранавіч, Беластока, Брэста і Мінска.

Немцы вельмі ўпарта абаранялі тут свае пазіцыі. Супроць войск Першага Беларускага фронта яны мелі ў першым эшалоне да 11—12 пяхотных дывізій, да 2—3 артылерыйскіх палкоў, 8 асобных артылерыйскіх дывізіёнаў і 4 дывізіёны штурмавых гармат. У другім эшалоне і рэзерве знаходзілася 2 пяхотных і адна танкавая дывізія. Усе гэтыя часці ўваходзілі ў склад 9-й германскай арміі.

Па ўсім фронце немцы пабудавалі моцную абарону, а горад Бабруйск быў ператвораны імі ў крэпасць.

Нялёгка было аваладаць гэтай крэпасцю. Наступаючым трэба было пераходзіць такія рэкі, як Друць, Бярэзіна, Свіслач, Ольса.

Падрыхтоўка да наступлення пачалася за месяц. За гэты час была зроблена перагрупіроўка войск для арганізацыі ўдарных груп. Разам з тым вораг дасканала вывучаўся: увесь час вялася разведка боем, фатаграфіраваліся ўмацаванні, пазіцыі.

Вораг чакаў галоўнага ўдару паўднёвей Жлобіна, бо нашы войскі будавалі тут дарогі, масты і збіралі свае сілы. Але ўсё гэта рабілася, каб абхітрыць ворага.

Напярэдадні наступлення па ўсяму фронту была зроблена разведка боем. Немцы думалі, што гэта сапраўднае наступленне, і ў першых лініях абароны выставілі ўсе свае сілы. У гэты час уся наша артылерыя фронта адкрыла знішчальны агонь. Пасля двухгадзіннай артылерыйскай падрыхтоўкі пяхота пайшла ў атаку. Першыя лініі нямецкіх траншэй былі захоплены. Шмат салдат было забіта, а тыя, якія засталіся, здаліся ў палон. Але хутка ў глыбіні абароны вораг апамятаўся. Асабліва энергічна контратакаваў ён нашы часці на Рагачоўска-Бабруйскім кірунку. Нямецкае камандаванне сцягнула сюды ўсе свае войскі.

Часці Чырвонай Арміі разбілі ў гэты час войскі ворага, якія займалі паўднёвыя пазіцыі, і падышлі да Бабруйска, а правы фланг нашых войск фарсіраваў раку Ольса (гл. карту).

Цяпер толькі немцы зразумелі, што трапілі ў «кацёл». Вырвацца з гэтага катла ім ужо не ўдалося.

Часці, што наступалі паміж рэкамі Пціч і Бярэзіна, прарваліся на захад ад Бабруйска і злучыліся з войскамі, якія наносілі абхватваючы ўдар з усхода. У выніку гэтага савецкія войскі акружылі ў Бабруйску і на паўднёвым усходзе горада галоўныя нямецкія сілы.

29 чэрвеня нямецкае войска было часткова знішчана, часткова ўзята ў палон.

У Бабруйскім катле вораг страціў забітымі і палоннымі 74 тысячы салдат і афіцэраў, 366 танкаў і самаходных гармат, 2.670 гармат, 2.250 мінамётаў, 7.400 кулямётаў і больш 15 тысяч аўтамашын.

Кіраваў гэтай выдатнай аперацыяй Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі.

## У ПАДАРОЖЖА ПА РОДНАМУ КРАЮ



*Піонерская дружына 5-й школы гор. Гомеля ў падарожжы. На здымку: піонеркі Іна Барановіч, Ніна Салаўёва і Эма Кагановіч сартыруюць кветкі, сабраныя для гербарыя.*

Фота А. Дзітлава

# Беларусь аднаўляецца



1



2





4



5



6

*НА ЗДЫМКАХ: 1. Работы па аднаўленню Днепра-Бугскага канала. 2. Адноўлены дом на вул. Пушкіна ў г. Гомелі. 3. Цэментны завод «Перамога». 4. Аднаўленне дома на Савецкай вуліцы ў г. Мінску. 5. Куток парка Культуры і адпачынку ў г. Гомелі. 6. Адноўлены вакзал у г. Гродна.*

**Фота А. Дзітлава і В. Лупейкі.**

# НА ПЕРАДАВОЙ ЛІНІІ

*В. ЖУЧКЕВІЧ*

*Мал. В. Ціхановіча*

## БУСЛЫ

Невялікая вёска каля Пскова была амаль знішчана. Раскіданыя абгарэлыя бярвенні, кавалкі цэглы, слупы ад зламанага плоту, некалькі садовых дрэў сведчылі аб тым, што тут калісьці жылі і працавалі людзі. Але зараз тут было бязлюдна, бо як толькі немцы заўважалі ў вёсцы чалавека, пачыналі абстрэл з гарматаў.

Пачыналася вясна. Каля ручая зацвіталі кветкі. Распушчаліся почкі на дрэвах. Зямля падсохла і чакала сваіх гаспадароў. Але гэта была вясна на руінах. Плугі і бароны, раскіданыя сярод пажарышч, ржавелі без догляду; стары топаль, узняўшыся высока да сонца, распускаў свае почкі толькі на адной сваёй непашкоджанай галіне. Радасць вясны спалучалася тут з нейкай асенняй пустатой.

У адзін з ясных цёплых дзён я ўбачыў з назіральнага пункта буслоў, яны вярнуліся з выраю на сваё ранейшае жыхарства ў гэтай вёсцы. Доўга кружыліся яны над месцам, якое так змянілася. Яны бачылі знаёмыя балоты, рэчку з заросшымі лазой берагамі, але не відаць было саламяных стрэх роднай вёскі і аратых у полі, не чуваць было стуку каваля ў кузні і вясёлых галасоў дзяцей.

«Паляцяць, мусіць, назад з гэтага месца»,—думаў я. Але буслы кружыліся і спускаліся ўсё ніжэй. Яны заўважылі, што іх гняздо на коле, між сукамі старога топаля, захавалася некранутым. Апусціўшыся ў свой стары дом, яны пачалі папраўляць галінкі — рамантаваць гняздо. Сярод руін і пажарышч прыемна было бачыць гэтых адзіных старых жыхароў разбуранай вёскі.



*Буслы пачыналі жыць сваім звычайным жыццём.*

Буслы, здаецца, пачыналі жыць сваім звычайным жыццём. Раніцай яны вылятаді з гнязда, спускаліся на знаёмае ім з дзяцінства балота і хадзілі, збіраючы корм, паважна, не звяртаючы ўвагі на абстрэл. Яны блізка падпускалі да сябе чырвонаармейцаў, бо ніхто з нашых байцоў іх не крыўдзіў. Калі нечаканы абстрэл заставаў птушак у гняздзе, яны з трывогай узляталі ўгору, кружыліся над руінамі вёскі і доўга не маглі супакоіцца.

Недалёка праходзіў пярэдні край. На балоце, дзе звычайна хадзілі буслы, лінія абароны перарывалася, і траншэй не было, але часта сустракаліся міны. Аднойчы, калі буслы, як звычайна, хадзілі па балоце, я пачуў выбух міны і ўбачыў высока ўгары аднаго з буслоў, які з трывогай лётаў над балотам. Другога бусла не было. Толькі ля месца выбуха відаць былі раскіданыя пер'і. Мабыць, заўважыўшы незнаёмы бліскучы прадмет, бусел захацеў паспытаць яго дзюбай. Але цікавая цацка ўзарвалася, і ад птушкі засталіся толькі пер'і.

Самка-бусліха з гэтага часу страціла спакой. Яна баялася вылятаць на балота і звычайна сядзела ў гняздзе.

Хутка нашы войскі перайшлі ў наступленне. Лінія абароны немцаў была прарвана. У час баёў нямецкі снарад трапіў у стары топаль і раскідаў буслава гняздо. Але ў той час у гняздзе ўжо нікога не было: бусліха пакінула яго раней.

## ЗАЯЧАЯ КАЛОНІЯ

Цэлая заячая калонія стварылася ля польскага горада Млава ў студзені 1945 г. На дзесяткі кілометраў вакол працягвалася снежная раўніна. Невялічкія ляскі і сады былі спалены і высечаны ў час баявых дзеянняў. Адзіным прытулкам для зайцоў служыла невялічкая лагчына, зарослая густым лазняком. Грунт тут быў топкі, таму гарматы, аўтамабілі і нават байцы пазбягалі спускацца ўніз. Зайцы адчувалі сябе тут нядрэнна: яны абгрызалі кару дрэўцаў і лазы; тут-жа знаходзіліся і невялічкія копы сена. Людзі не трывожылі зайцоў.



*Адзіным прытулкам для зайцоў служыла невялічкая лагчына.*

Але гэты спакой хутка быў парушан. У студзені тут пачалося наступленне нашых войск. Ад гулу гармат і кацюш, разрываў снарадаў і шуму танкаў дрыжала зямля. Праз заячую лагчыну працягнулі тэлефонныя лініі, прайшлі байцы. Напалоханыя зайцы пачалі разбягацца і траплялі ў самыя нечаканыя месцы: натыкаліся на міны і падрываліся, траплялі ў траншэі да людзей, пад гусеніцы танкаў. Некаторыя з байцоў не маглі стрымацца, каб не стрэліць у зайца, які кідаўся з боку ў бок.

Уся лагчына, дзе жылі зайцы, была пакрыта заячымі слядамі. Дрэўцы і кусты былі абгрызены. Гэта была цэлая калонія зайцоў, якая стварылася ў час вайны і вайной-жа была разбурана.

## „ГАЛЯ“

У паўночнай Польшчы, недалёка ад горада Гданьска, захаваліся вялікія лясы, дзе знайшлі сабе прытулак еўрапейскія касулі. Калі праходзіў тут фронт, яны групамі ў 5—6 галоў з'яўляліся ў зусім нечаканых месцах. Некаторыя з іх былі выгнаны з лясоў войскамі, якія тут праходзілі, іншыя-ж самі з-за цікавасці выбягалі з лесу, каб пабачыць,



*Яна нават не заўважыла сержанта, які падышоў ззаду, узяў яе на рукі.*

што за цудоўныя рэчы рухаюцца па палях.

Не раз даводзілася мне бачыць касуль зблізку. Яны з'яўляліся гэтак-жа нечакана, як і знікалі. Часта, пачуўшы гул аўтамабіля, яны выбягалі на дарогу і беглі перад машынай да таго часу, пакуль зусім не стамляліся.

Аднойчы цёмнай майскай ноччу я ехаў лесам у аўтамабілі. Апрача мяне, у машыне былі сержант і шофер. Фары машыны асвятлялі роўную і прамую дарогу, а справа і злева нас абступала цёмная сцяна лесу.

Раптам у яркім святле мы ўбачылі касулю, якая выбегла з лесу. Асляпленая фарамі, яна кінулася ўцякаць проста перад машынай. Больш кілометра мы і не даганялі і не адставалі ад яе. Але потым сілы сталі пакідаць яе, і тут толькі заўважылі мы, што гэта была зусім маладая козачка. Страціўшы надзею на ратунак, яна, нарэшце, спынілася так нечакана, што шофер ледзь паспеў спыніць машыну. Зморaная і асляпленая яркім святлом, яна стаяла на месцы, не спрабуючы ўцякаць. Яна, нават, не заўважыла сержанта, які падышоў ззаду, узяў яе на рукі і пасадзіў у машыну.

Гэта быў час, калі пасля перамогі над ворагам мы стаялі на адпачынку ў лесе. Для гульняў тут была агароджана сеткай шырокая палянка. Сюды мы і пусцілі сваю палонніцу. У першы час яна вельмі палохалася і кідалася бегчы з усіх ног, як толькі заўважала чалавека, але потым так прывыкла, што брала хлеб з рук і нават хадзіла за байцамі, «выпрошваючы» ласункі. Байцы празвалі яе «Галя», і яна хутка пачала разумець гэту клічку. Яна бегала ля чырвонаармейцаў, пасвілася на свежай траве ля палатак, піла ваду з вядра. Асабліва падабалася ёй хадзіць ля кухні і повара, які стаў яе добрым сябрам.

Два месяцы пражыла Галя ў нашым лагеры. Калі хто-небудзь, жартуючы, пужаў яе, яна ўцякала, але нарэшце ўсё-ж прыходзіла назад у лагер.

У ліпені наша часць была пераведзена ў вялікі горад. Повар пасадзіў Галю ў машыну і парашыў везці з сабою.

— Я яе і дадому, на радзіму, павязу,— казаў ён таварышам.

Ехалі праз вялікі лес. На адным з паваротаў машыны спыніліся, каб пачакаць адстаўшых. Галя хадзіла ля дарогі, скубучы свежую траву. Раптам яна, нібы нешта ўспомніла, падняла ўгору галаву, пастаяла, а потым кінулася ў лес. Дарэмна клікаў яе повар і да самага ад'езда хадзіў па лесе. Яна як скрозь зямлю правалілася.

— Не чакай,—сказаў я повару:—гэта тое месца, дзе яе злавілі. Яна пабегла да сваіх, і ты яе больш не ўбачыш.

І сапраўды, праязджаючы праз свае родныя месцы, Галя, відаць, успомніла дзяцінства. Знаёмы лес клікаў яе да сябе. Ён быў для яе даражэй усіх новых сяброў.



І. В. Сталін і А. М. Горкі.

З карціны А. Герасімава.




# Пра Іванку прастачка

*М. ГОРКІ* *(Руская народная казка)* *Мал. В. Ціхановіча*

Жыў-быў Іванка-прастачок, прыгожы сабою, а што ні зробіць, усё ў яго смешна выходзіць—не так, як у людзей.

Наняў яго ў работнікі адзін мужык, а сам з жонкаю сабраўся ў горад; жонка і кажа Іванку:

— Астанешся ты з дзецьмі, наглядай за імі, накармі іх.

— А чым?—пытаецца Іванка.

Вазьмі вады, мукі, бульбы, пакрышы ды звары—будзе зацірка.

Мужык загадвае:

— Дзверы пільнуй, каб дзеці ў лес не пабеглі!

Паехаў мужык з жонкаю; Іванка ўзлез на палаткі, пабудзіў дзяцей, пасцягваў іх на падлогу, сам сеў ззаду іх і кажа:

— Ну, вось, я наглядаю за вамі.

Пасядзелі дзеці некаторы час на падлозе,—папрасілі есці; Іванка ўцягнуў у хату кадушку вады, насыпаў у яе поўмяшка мукі, мерку бульбы, размяшаў усё каромыслам і разважае ўголас:

— А каго крышыць трэба?

Пачулі дзеці,—спалохаліся:

— Ён яшчэ можа нас пакрышыць!

І цішком выбеглі з хаты.

Іванка паглядзеў услед ім, пачухаў патыліцу,—думае:

— Як-жа я цяпер наглядаць за імі буду? Ды яшчэ дзверы трэба пільнаваць, каб яны не ўцяклі.

Зірнуў у кадушку і кажа:

— Варыся, зацірка, а я пайду за дзецьмі наглядаць.

Зняў дзверы з завесаў, узваліў іх на плечы сабе і пайшоў у лес; раптам насустрач яму Мядзведзь ідзе — здзівіўся, раве:

— Гэй, ты, навошта дрэва ў лес нясеш?

Расказаў яму Іванка, што з ім здарылася,—Мядзведзь сеў на заднія лапы і рагоча:

— Які-ж ты дурненькі! Вось я цябе з'ем за гэта!

А Іванка кажа:

— Ты лепш дзяцей з'еш, каб яны другі раз бацьку-матку слухалі, у лес не бегалі.

Мядзведзь яшчэ гучней смяецца, так і качаецца па зямлі са смеху.

— Ніколі такога дурнога не бачыў! Хадзем, я цябе жонцы сваёй пакажу!

Павёў яго да сябе ў бярлогу. Іванка ідзе, дзвярыма за сосны чапляецца.

— Ды кінь ты іх!—кажа Мядзведзь.

— Не, я свайму слову гаспадар: абяцаў пільнаваць, дык ужо ўпільную.

Прышлі ў бярлогу. Мядзведзь кажа жонцы:

— Глядзі, Маша, якога я табе прастачка прывёў. Смехата.

А Іванка пытаецца ў мядзведзіцы:

— Цётка, не бачыла дзетак?

— Мае — дома, спяць.

— А ну, пакажы, ці не мае гэта?

Паказала яму мядзведзіца траіх медзведзянят; ён кажа:

— Не гэтыя, у мяне двое было.

Тут і мядзведзіца бачыць, што ён дурненькі, таксама смяецца:

— Ды ў цябе чалавечыя дзеці былі!

— Ну вось,—сказаў Іванка,—разбярэш іх, маленькіх, якія чые?

— Вось пацеха!—здзівілася мядзведзіца і кажа мужу:



*— А каго крышыць трэба?*

— Міхайла Патапыч, не будзем яго есці, няхай ён у нас за работніка жыве.

— Добра,—згадзіўся Мядзведзь, —ён хоць і чалавек, але вельмі-ж ужо бяскрыўдны.

Дала мядзведзіца Іванку кошык, загадвае:

— Схадзі ты набяры маліны лясной,— дзеткі прачнуцца, я іх смачненькім пачастую.

— Добра, гэта я магу!—сказаў Іванка.—А вы дзверы папільнуйце!

Пайшоў Іванка ў лясны маліннік, набраў малін поўны кошык, сам колькі мог наеўся, ідзе назад да мядзведзяў і спявае на ўсё горла:

Эх, як нялоўкі
Божыя кароўкі!
Рэч другая — мураўі
Або яшчаркі!

Прышоў у бярлогу, крычыць:

— Вось яна, маліна!

Медзведзяняты падбеглі да кошыка, вурчаць, штурхаюць адзін аднаго, куляюцца,—вельмі рады.

А Іванка, гледзячы на іх, кажа:

— Эх, ты, шкада, што я не мядзведзь, а то і ў мяне дзеці былі-б!

Мядзведзь з жонкай рагочуць.

— Ой, бацюхны мае!—раве Мядзведзь,—ды з ім жыць нельга,—са смеху памрэш!

— Вось што,—кажа Іванка,—вы тут папільнуйце дзверы, а я пайду дзяцей шукаць, бо гаспадар надае мне.

А мядзведзіца просіць мужа:

— Міша, ты-б дапамог яму.

— Трэба дапамагчы,—згадзіўся Мядзведзь,—вельмі-ж ужо ён смешны.

Пайшоў Мядзведзь з Іванкам ляснымі сцежкамі, ідуць, тутараць па-прыяцельску:

— Ну і дурны-ж ты!—дзівіцца Мядзведзь, а Іванка пытаецца ў яго:

— А ты—разумны?

— Я?

— Але, ты.

— Не ведаю.

— І я не ведаю. Ты—злосны?

— Не! Навошта!

— А па-мойму, хто злосны, той і дурны. Я вось таксама не злосны. Значыцца, абодва мы з табою не дурні будзем.

— Бач ты, як давёў!—здзівіўся Мядзведзь.

Раптам—бачаць: сядзяць пад кустом двое дзяцей, заснулі.

Мядзведзь пытаецца:

— Гэта твае, ці што?
— Не ведаю,—кажа Іванка,—трэба ў іх запытацца. Мае есці хацелі.
Пабудзілі дзяцей, пытаюцца:
— Хочаце есці?
Тыя крычаць:
— Даўно хочам!
— Ну,—сказаў Іванка,—значыцца, гэта і ёсць мае. Цяпер я павяду іх у вёску, а ты, дзядзька, прынясі, калі ласка, дзверы, а то самому мне няма калі, мне яшчэ трэба зацірку варыць.
— Ну, добра,—сказаў Мядзведзь.— Прынясу!
Ідзе Іванка ззаду дзяцей, наглядае за імі, як яму загадана, а сам спявае:

Эх, вось дык дзівата!
Жукі ловяць зайца.
А лісіца з-пад куста
Глядзіць і здзіўляецца.

Прышоў у хату, а ўжо гаспадары з горада вярнуліся, бачаць: сярод хаты кадушка стаіць, даверху вадою наліта, бульбай насыпана ды мукою, дзяцей няма, дзверы таксама прапалі,—селі яны на лаву і плачуць горка.
— Чаго плачаце? — запытаўся ў іх Іванка.
Тут убачылі яны дзяцей, узрадаваліся, абнімаюць іх, а ў Іванкі пытаюцца, паказваючы на яго мешанку ў кадушцы:
— Гэта чаго ты нарабіў?
— Зацірკі.
— А хіба так трэба?
— А я адкуль ведаю—як?
— А дзверы дзе падзеліся?
— Зараз іх прынясуць,—вось яны.
Глянулі гаспадары ў акно, а па вуліцы ідзе Мядзведзь, дзверы цягне, народ ад яго ва ўсе бакі бяжыць, на стрэхі лезуць, на дрэвы; сабакі напужаліся—ушчаміліся са страху ў платах, пад варотамі; толькі адзін рыжы певень смела стаіць сярод вуліцы і крычыць на Мядзведзя:
— Кіну ў рэку-у!..

## ДРУЖБА



**На здымку:** шэфы прынеслі ў дзетдом жывыя кветкі (злева направа) **Рэнард Пікулін, Бора Савіцкі, Сава Пекеліс** і класны кіраўнік **Елена Паўлаўна Берлін.**

**Цікавую і добрую справу прыдумалі вучні 6 класа „А“ 42 сярэдняй школы гор. Мінска. Яны ўзялі шэфства над дзіцячым домам дзе выхоўваюцца дзеці-сіраты.**

Вучні часта наведваюць маленькіх выхаванцаў, прыносяць ім падарункі, мастацкія дзіцячыя кніжкі, арганізуюць вечары мастацкай самадзейнасці.

Гэтай вясной шэфы вырасцілі некалькі гатункаў агародных раслін і кветак, падаравалі іх дзецям і навучылі дзяцей даглядаць за гароднінай улетку.

Асабліва дзетдомаўцам спадабаўся акварыум. Колькі было радасці, калі шэфы прынеслі шкляную скрынку, у якой пляскаліся жывыя карпы. У гэты дзень дзетдомаўцы ў адзнаку сяброўскай падзякі паказалі шэфам сваю самадзейнасць.

Узначальвае шэфства класны кіраўнік школы — Елена Паўлаўна Берлін.




# Янкаў сон

*Лявон ПРЫСЯГА*

*Мал. В. Грамыкі*

Сёння Янка, як ніколі,
Доўга спаў і бачыў сон:
Быццам сам, адзін у полі
Кіраваў жняяркай ён.

І такім-жа ён здаваўся
Вырас—проста не пазнаць!
Нават коней не баяўся—
Сам умеў іх запрагаць.

Па іржышчы едзе Янка,
Як сапраўды, а не ў сне,
А складаная жняярка
Сама вяжа, сама жне.

Падбягаюць к Янку дзеці,
Просяць: «Дзядзька, падвязі
Хоць-бы крышку — да павеці;
Недалёка-ж, паглядзі!

Доўга Янку сон той сніўся,
Што такі быў удалы.
Як прачнуўся, дык здзівіўся,
Бо ізноў ён стаў малы...

Янка ўстаў, паклікаў бабку
І бубніць сабе пад нос:
«Бабка, я быў вырас з татку,
А чаму я зноў адрос?

І не хоча бабцы верыць,
Што прысніўся яму сон:
Парашыў сябе ён змераць,—
Бо няўжо-ж не вырас ён?

Зняў з кручка ён качарэжку,
Бабцы слова не сказаў,
Змераў—вышла па зарэзку,
Як учора адзначаў.

І пабег з плачом да ганка,
Не ўняць было ад слёз:
«Я быў вырас,—плача Янка,—
А чаму я зноў адрос?»






# Ад'езд

М. ЛУПСЯКОЎ

*Мал. В. Сухаверхава*

Дзень, калі Юрка Мацейчык атрымаў з рук дырэктара пасведчанне аб сканчэнні сямігодкі, быў самым радасным днём у яго жыцці.

Яшчэ раніцою, прышоўшы на школьны двор, ён убачыў вартаўніцу цётку Марылю. Цётка Марыля ў гэты дзень мыла ў класах падлогу і вынесла з будынка школы вядро бруднай вады, якую выліла ў памыйную яму. Тым не менш, хлопец быў перакананы, што вышла яна галоўным чынам для таго, каб спаткаць яго.

— Чаго-ж ты прышоў так рана?— запыталася яна.—Хіба не чуў, як дырэктар казаў, што ў дзесяць гадзін тут будзе.

— Дык ужо-ж дзесяць.

— Восем толькі...

А ў кутках яе губ, у шэрых вялікіх вачах Юрка бачыў тое самае, чым сам быў захоплены—шчасце. Вочы, здавалася, смяяліся, усмешка хавалася ў моцна сцятых яе губах, дый усё, што бачыў ён вакол сябе, было ў вялікай радасці і шчасці. Свяціла сонейка, весела чырыкалі на загарадзі канапляннікі, сакатаннем адказвалі ім куры з двара. Сама цётка Марыля сёння была таксама вельмі лагодная жанчына. Праўда у гэтым годзе некалькі разоў Юрка меў з ёй непрыемную сустрэчу ў дырэктаравым кабінеце, калі Марыля густым басам расказвала дырэктару пра Юркавы праявы. Першы раз гэта здарылася з-за таго, што Юрка, бегаючы па калідоры, зачапіўся за бляшаны бачок з вадою і перакуліў яго; другі, памятаецца, з-за таго, што пачаў ей у нечым пярэчыць... Асе сёння ўсё гэта здавалася яму не вартым ніякай увагі. Наадварот, ён вельмі здзівіўся: як гэта ён тады мог спрачацца з такой ветлівай і добрай цёткай Марыляй? Яму раптам зрабілася за гэта сорамна, і ен вышау з школьнага двара на вуліцу. Тут у яго адбылася яшчэ адна вельмі прыемная сустрэча. Вуліцаю вараны канек цягнуу воз гною, а поплеч, у высока падкасаных штанах, з дубцом у правай руцэ, крочыў дзядзька Ахрэм. У Ахрэма—чорная даўгая барада. Вяскоуцы жартам завуць Ахрэма «прафесарам». Ледзь толькі ён параўняуся з Юркам, як міргнуў вокам, кіўнуў галавой і весела крыкнуў:

— Здароў, арол!

— Добры дзень, дзядзька!—адказаў Юрка.

— Як маешся?

— Ды ўсё так-жа.

— Гм! Цьфу!—плюнуў дзядзька і пакрочыў далей.

«Чаго ён мне міргнуў?—думаў між тым Юрка.—Ага, значыць, і ён рады.

Але хто яму расказаў, што сёння я атрымаю пасведчанне?»

Юрка доўгі час пазіраў услед дзядзьку Ахрэму, а потым вырашыў, што і самому варта схадзіць у поле: трэба-ж недзе перачакаць да дзесяці гадзін...

Увесь свет у гэты дзень быў для яго незвычайна прыгожы. У полі над яго галавою неяк вельмі ўжо заўзята спявалі жаўранкі; па сцежках, між вусатых ячмянёў, цвілі васількі, звінеў званец, стракаталі конікі. А ў нізінцы, у жыце, ён убачыў стары спарахнелы пень; вакол яго густа расла трава і чырванела ў ёй суніца-ягада.

Дзень абяцаў быць пагодлівым, на небе не было ніводнай хмаркі, небасхіл з грэбенем далёкіх лясоў хаваўся ў шызай дымцы. Сонца добра ўгравала зямлю.

Ён вярнуўся ў школу ў самы час. Там быў ужо ўвесь сёмы клас, і Юрку сустрэлі радаснымі воклічамі.

* * *

— Атрымаў! Атрымаў!

— Што атрымаў?—запыталася цётка



*— Прачытай, што напісана.*

Параска, здзіўлена пазіраючы на сына, які ўбег у хату з паперай у руцэ.

— Пасведчанне аб сканчэнні школы. От зірніце: амаль усё здадзена на выдатна!—І Юрка разгарнуў пасведчанне.

Цётка Параска дрэнна ведала грамату, але пасведчанне аглядзела ўважліва.

— Прачытай, што напісана.

Юрка прачытаў. Тут прышоў з поля бацька. Ён таксама захацеў паслухаць. А паслухаўшы, запытаўся:

— Ну, дык што рабіць, Юрка, будзеш?

Запытаўся ў сына сур'ёзна, як у сталага чалавека. А чалавеку гэтаму скакаць ад радасці хацелася.

— Вучыцца пайду, тата.

— Далей, значыць?

— Далей.

— І куды падацца думаеш?

— У Мінск. У будаўнічы тэхнікум.

— Гэта-ж на каго вучыцца будзеш?

— Тэхнікам буду, тата. Заводы, дамы будаваць буду.

— От яно як. Ну, што-ж — вучыся. Вольнаму—воля.

Селі абедаць. І за сталом гутарка вялася ўжо пра гаспадарку, пра парсючка, якога трэба будзе прадаць, бо грошы Юрку спатрэбяцца, калі ён у Мінск паедзе.

Напісаў Юрка заяву, кароткую сваю біяграфію і паслаў усё гэта заказным лістом у Мінск, у тэхнікум. Пачаў чакаць адказу. Дні беглі непрыкметна. Зранку Юрка хадзіў на работу ў поле, у абед забягаў на пошту запытацца, ці не прышоў з Мінска ліст, вечарамі сядзеў пры лямпе, чытаў і пісаў—рыхтаваўся да іспытаў. У гэтыя дні Юрка амаль і не бачыў сяброў па школе—не было часу схадзіць да іх.

А маці, між тым, ужо рыхтавала яго ў дарогу. Пашыла раскошную торбу з палатна, бялізну, дзве верхнія кашулі.

Часта вечарамі ў хату прыходзіў Ахрэм. Ён садзіўся ў парозе на мех ці на скрыню, у якую ссыпалі муку, гладзіў рукою сваю даўгую чорную бараду і, паказваючы Міхалу на сына, казаў:

— Значыць, у навуку падаецца Юрка?

— Падаецца то падаецца, але што з таго выйдзе,—казаў бацька.—От парсюч-



*Любіць Юрка гэтыя вечары, калі на стале гарыць лямпа, і ўся сям'я вядзе размову.*

дзядзьку Ахрэма «прафесарам». Ён як выйдзе раніцою на вуліцу, як сустрэнецца з якім чалавекам, як загаворыцца, дык ледзь не да абеда. І чаго толькі не раскажа дзядзька Ахрэм. І не зразумееш, дзе ў яго праўда, а дзе выдумка. Калі-ж прыедзе на пабыўку які-небудзь студэнт, Ахрэм абавязкова зойдзе праведаць «вучонага» чалавека. Усё распытае, запамятае і пасля можа з год здзіўляе вяскоўцаў сваімі ведамі.

Ахрэм вядомы яшчэ, як лекар. Раней, калі больніца была ажно ў Жлобіне, да яго прыходзіла лячыцца безліч народу. Лячыў Ахрэм травамі. І трэба праўду сказаць: многіх вылечваў. Але, калі блізка пабудавалі яшчэ дзве больніцы, хворыя да яго прыходзілі зрэдку: відаць, у больніцах усё-ж лепш лячылі. Жонка ў Ахрэма непрыкметная жанчына. Нізенькая, з маршчыністым тварам, з якога амаль ніколі не сыходзіць пяшчотная ўсмешка, яна нічым асаблівым не вызначаецца і жыве нейкім сваім асобным жыццём. Гутарыць яна з вяскоўцамі вельмі рэдка, і ўсім вядома толькі яе ціхмянасць і сарамяжлівасць...

— Значыць, выб'ецца твой сын у людзі,—кажа вечарамі Міхалу Ахрэм.— Пойдзе іншым шляхам, чым мы з табою... Стане вучоным, а вучонаму—усюды дарога. Ён, брат, жыццё бачыць да самага дна, вучоны.

Іншы раз Ахрэм павучае Юрку:

— Ты-ж глядзі, брат, не падкачай там. Будзь наперадзе ўсіх.

— Цябе-б туды, Ахрэм,—кажа маці:— адразу ў галоўныя начальнікі паставілі-б...

— Гады прайшлі, Параска,—уздыхае Ахрэм.—Гады, ліха на іх. Каб быў маладзейшы, то і пайшоў-бы. Я хутка-б

ка ўжо прадалі, а там які толк—ліха ведае.

— Ён у цябе ўпарты,—толк будзе,— упэўнена адказвае Ахрэм.—Хай толькі ідзе вучыцца па ліхтрычаству. Гэта, брат, такая навука. Адным словам,—лепшай не знойдзеш. Сядзім, скажам, от мы з табою вечарам. Націснулі такі гузік— святло. Націснулі другі—гатова табе вячэра, націснулі трэці—само ў рот ляціць, адно глытай...

Юрка слухае гэтыя размовы, спрабуе пярэчыць, але куды там! Ахрэм і рукамі махае і галавой трасе.

— Не пярэч ты яму,—смяецца маці.— Ён усё ведае. Ведама, прафесар.

Юрка таксама смяецца. Яму добра вядома, што за ўсё сваё жыццё Ахрэм ні разу не быў у вялікім горадзе. Але, пры выпадку, пра любы горад ён пачне казаць так, быццам усё там сваімі вачыма бачыў. Нездарма празвалі вяскоўцы

ўсякую навуку перахапіў. Колісь жыў тут паблізу разумны лекар. То ён мне пакажа, якая трава ад якое хваробы, дык я адразу і запамятаю. А каб не гады, дык што думаеш? І ў вучоныя начальнікі выбіўся-б.

Любіць Юрка гэтыя вечары, калі на стале гарыць лямпа, і ўся сям'я вядзе размову. Юрка, звычайна, сядзіць за сталом з кніжкаю—рыхтуецца да іспытаў. Іншы раз не ўтрымаецца, пачне распытваць пра што-небудзь дзядзьку Ахрэма, іншы раз задумаецца. Ён думае пра той вялікі горад, у якім будзе вучыцца. Тады ў яго ўяўленні паўстаюць высокія камяніцы, безліч народу і сярод яго—ён, Юрка. Што напаткае там яго, далёка ад роднага дому, ад бацькі і маці? Пэўна, што цяжкавата будзе спачатку, але Юрка ўсё вытрымае і свайго даб'ецца... І зноў ён бярэцца за кніжку і настойліва чытае радок за радком...

Ужо з поля звозілі збажыну, калі Юрка Мацейчык атрымаў доўгачаканы ліст. Гэта была звычайная паштоўка; у ёй пісалася, што Юрка Мацейчык павінен прыехаць у Мінск, каб здаць залікі.

Зборы былі вельмі кароткімі. У той-жа дзень маці напакавала яго торбу харчамі, а ўжо назаўтра раніцою Юрка і маці сядзелі ззаду на возе, а бацька кіраваў канём. Ехалі вуліцаю, і ля двароў Юрка бачыў вяскоўцаў, якія з цікаўнасцю пазіралі на яго. От прамінулі будынак сельсовета, потым—школу, а ўжо на самай ускраіне вёскі раптам спаткалі дзядзьку Ахрэма. Дзядзька Ахрэм быў апрануты па-святочнаму, бо якраз была нядзеля; на ім былі чорныя ў белую палоску штаны, простыя наваксаваныя дзёгцем боты і палатняная кашуля з вышытым каўняром. І толькі падперазаны ён быў той самай вяровачкай, якой кожны дзень падпяразваўся. Твар яго ззяў усмешкай і чырванню, і было прыкметна, што дзядзька Ахрэм ужо троху падвыпіў.

— Ну, Юрка,—сказаў дзядзька Ахрэм, узяўшыся левай рукой за драбіны і крочачы побач з калёсамі,—шчасліва даехаць табе. А ты, Міхал, гэтае самае—дапамагай сыну.

— Ды ўжо-ж,—буркнуў бацька.

— Дык ты, Юрка, можа яшчэ прыедзеш?—запытаўся Ахрэм.

— Не, дзядзька, — адказаў Юрка. — Там праз дваццаць дзён заняткі...

— Бач ты. Ну, а я Сілівестрава хлапчука ад залатухі вылечыў. То паставіў мне Сілівестар пляшку гарэлкі. От я і падвыпіў. Бывай-жа, Юрка...

Доўга і ўважліва пазіраў Юрка ў той бок, дзе была вёска. Спачатку вельмі выразна ён бачыў канцавыя двары, парканы і агароды, у якіх адцвітаў сланечнік. Потым усё гэта злілося ў адну цёмную нізку будынкаў з саламянымі стрэхамі, з цаглянымі трубамі. Родная вёска адыходзіла ўсё далей і далей пад небасхіл, і Юрка засумаваў. Шкада было пакідаць вёску, сваіх бацькоў і гэтыя палі, так добра яму знаёмыя. Толькі цяпер Юрка па-сапраўднаму адчуў, як моцна любіць ён родны свой куток, як дораг ён яму. Можа там, у далёкім горадзе, здарыцца так, што Юрка доўгі час не зможа ўбачыць свае вёскі... Але гэтае невядомае яшчэ яму жыццё ўжо вабіла яго і цікавіла. І Юрка цярпліва пераносіў свой сум.

Дзень быў спякотны. Абапал дарогі ў аўсах жаўцеў званец. Плойма аваднёў з надакучлівым дзынканнем лётала вакол воза. Нокаў бацька, падганяючы каня, а дарога да станцыі была бачна далёка наперадзе. У апошні раз, на нейкім завароце, Юрка азірнуўся і замест сваёй вёскі раптам убачыў роўны небасхіл.





# АГАРОД





*З. АЛЕКСАНДРАВА*

Мы ранняй вясною
Дасталі лапаткі
Зямлю ўскапалі,
Пасеялі градкі.

І з леек маленькіх
З даўгімі насамі
Гарох і гуркі
Палівалі мы самі.

Мы градкі зялёныя
Дружна палолі,—
І вось ружавеюць там
Кветкі фасолі.

А побач радыска
Ўжо чырваніцца,
І кругленькай рэпцы
Ў зямлі не сядзіцца.

А раніцай бачылі
Сёння рэбяты,
Як грэўся на сонцы
Гарбуз паласаты.

Учора з маліны
Варэнне зварылі,
Байцоў да сябе
Мы на чай запрасілі.

У госці і вас
Запрашаем, рэбяты:
Гародніны ў нас
Зарадзіла багата!





*Мал. Г. Ізергінай*

# Гістарычныя помнікі

Вывучай свой край

*Мал. Ф. Круглянскага*



Багаты, вялікі і прыгожы наш край. Славіцца ён не толькі цудоўнай прыродай, але і цікавымі помнікамі старажытнасці.

Беларусь — гэта край легенд і казак край багатай народнай творчасці. Кожная вёска, мястэчка, горад, рака тояць у сабе цікавыя старонкі гісторыі.

Тысячы гістарычных магільных курганоў можна знайсці ў Барысаўскім раёне, у ваколіцах Лагойска і Бярэзіны, на Віцебшчыне, Полаччыне, Лепельшчыне і ў іншых раёнах.

Помнікі старажытнасці дапамагаюць нам вывучаць гісторыю краіны.

## РАГВАЛОДАЎ КАМЕНЬ



У старажытныя часы існавала Полацкае княства. Князі для ўвекавечвання памяці аб сабе будавалі каменныя помнікі.

Вялікую цікавасць прадстаўляе Рагвалодаў камень, які знаходзіцца ў 19 кіламетрах ад Оршы, ля дарогі на Мінск, што ідзе праз мястэчка Коханава.

Складаецца ён з чарнавата-бурай пясчанай пліты. На ім ёсць надпіс, выбіты славянскімі літарамі.

Жыхары называюць гэты камень грабніцай. Ён быў знойдзены ў 1792 годзе.

У 1805 годзе над каменем была зроблена капліца. Але яна была разбурана ў час нашэсця французаў. Потым сяляне зноў яе адбудавалі.

Гэты камень ляжыць на чатырох каменнях. Таму сяляне кажуць, што аршанскі камень мае галаву і падобны на жывёлу.

## ГАРАДЗІШЧА



У Гарадокскім раёне, Віцебскай вобласці, на адным з астравоў вялікага возера ёсць гарадзішча. Кажуць, што тут калісьці быў горад з умацаваным замкам. Уцалеўшыя ўмацаванні складаюцца з вала ў 168 метраў. Рэшткі сваяў цягнуцца ад вострава к берагу на 2 — 3 кілометры.

Гарадзішча, відаць, мела падземны ход. Замак гэты быў спалены Стэфанам Баторыем у 1579 годзе.

## АДЗІНОКАЯ МАГІЛА



У гэтым-жа раёне, недалёка ад вёскі Галубцова, на беразе возера, ёсць адзінокая магіла. Яна ўся зрыта шукальнікамі скарбаў. Жыхары вакольных вёсак думалі, што ў магіле захаваны скарбы. Апавядалі нават, што не так даўно ля

самай магілы выкапалі кавалак срэбра велічынёй з капусны качан.

Па народных паданнях, у магіле пахаваны ваеначальнік, які сваім жыццём заплаціў за перамогу над ворагам.

Ручай, які цячэ паблізу, называецца Красанец: паводле падання, пасля бітвы ён быў чырвоным ад чалавечай крыві.

## ВІТАЎТАВЫ ТАЛЕРКІ




Лепельскім раёне на березе Воронечскага возера ляжаў камень, вядомы ў народзе пад назвай Вітаўтавы талеркі. На ім прыкметны сляды паглыбленняў якія маюць форму талерак.

Паданне гаворыць, што на гэтым камені абедаў Вітаўт, вялікі князь Літоўскі, калі ў 1426 годзе ён браў замак Воронеч.

Ёсць яшчэ камень каля ракі Ушачы пад назвай Вітаўтаў відэлец.

## ПОМНІК ХРАБРЫМ ВОІНАМ




непадалёку ад вёскі Лясная, што знаходзіцца ў Слаўгарадскім раёне, Магілёўскай вобласці, уздымаецца помнік храбрым рускім воінам. Магутны арол раскінуў шырокія крыллі і, здаецца, вось-вось узляціць у блакітную высь. І помнік, і вёска Лясная дарагі кожнаму з нас. У гэтых месцах 238 год назад нашы продкі адстаялі чэсць і незалежнасць нашага народа, у цяжкой бойцы разбілі варожыя войскі, што хацелі заваяваць беларускія і рускія землі.

А было гэта так.

У 1707 годзе шведская армія пачала свой паход супроць Масквы. Рускія адступалі, зберагаючы сілы.




*Помнік рускім воінам непадалёку ад вёскі Лясная.*

Па дарогах Беларусі і Смаленшчыны ішлі на ўсход бежанцы, уздымалі пыл табуны жывёлы. Вораг займаў спустошаную, асіроцелую зямлю.

На дапамогу Карлу з Швецыі ішоў генерал Лівенгаупт. Калі Лівенгаупт злучыўся-б з войскамі Карла XII, вайна з Швецыяй зацягнулася-б надоўга. Таму рускі цар Пётр І паслаў насустрач Лівенгаупту 14-тысячны атрад гвардзейцаў.

28 верасня 1708 года ў хмурую, дажджлівую раніцу вось тут, каля вёскі Лясная, і адбылася вялікая бітва рускіх са шведамі. Армія шведаў была разбіта. Палова салдат была знішчана, частка паранена і забрана ў палон. Толькі нямногім удалося пазбегнуць рускага палону.

Прайшло 200 год. На месцы, дзе рускія войскі разбілі шведаў, быў закладзены помнік у чэсць храбрых рускіх воінаў. Ён стаіць і цяпер, напамінаючы людзям аб слаўных справах рускай зброі.




# Заклятае возера

*(Народная легенда)*

*Мал. А. Волкава*

Шмат цікавых паданняў і легенд стварыў наш народ аб паходжанні і гісторыі той ці іншай мясцовасці. У легендзе, якую мы друкуем у гэтым нумары, апавядаецца пра захаваныя скарбы ў нетрах зямлі на прыдняпроўскіх і прысожскіх прасторах.

Улетку многія з вас, рэбяты, будуць праводзіць падарожжы па роднаму краю. Раім вам запісваць цікавыя народныя апавяданні, звязаныя з асобнымі мясцовасцямі. Матэрыялы шліце ў рэдакцыю. Толькі абавязкова адзначайце, дзе і ад каго запісалі.

Дзе між лясоў і балот спаважна нясе свае чыстыя воды шырокі Дняпро, а напярэймы яму злева імчыцца рухавы Сож,—даўным-даўно жылі там тры родныя браты, тры магутныя асілкі. Старэйшы брат, Вадзіла, жыў на Дняпры, сярэдні, Раціла, на Сожы, а малодшы, Брадзіла, між імі, на астравах ды азёрах па Проні-рацэ.

Мелі браты дружыны ваяцкія, але ваяваць выходзілі толькі тады, калі нападалі на іх ворагі. І ў паходах заўсёды смеласць і храбрасць выяўлялі, адзін другому дапамагалі.

А калі з паходаў вярталіся, жылі ціха ды мірна: зямлю аралі—хлеб здабывалі, калоды-вуллі ў лясах ставілі, у рэках рыбу лавілі, у пушчах звера з лукаў стралялі.

Так і жылі дзень за днём, год за годам.

Але вось аднойчы прыплылі сюды па Проні-рацэ на лёгкіх караблях купцы замежныя. Прычалілі караблі да вострава Брадзілавага, з усіх бакоў возерам акружанага; і не паспелі купцы тавары распакаваць, як усхадзілася навальніца страшэнная, пазрывала караблі з прычалаў, параскідала іх і патапіла на дне возера глыбокага. А самі купцы ледзь жывымі ратаваліся.

Асталіся купцы жыць на востраве. Але ні зямлі ўрабляць, ні звяроў страляць не ўмелі яны. А гандляваць не было чым. І надумаліся купцы новыя караблі будаваць, каб было на чым тавары вазіць. Насеклі дубу, сасны шмат, але не



*Асілак Вадзіла.*

было ў іх жалеза на цвікі, ды на заклёпкі, ды на якары. Пачалі яны зямлю капаць, жалезную руду шукаць. І гэтулькі тут руды пазнаходзілі, што дзе ні капай—усюды зямля звініць. Пабудавалі тады купцы печы адмысловыя ды пачалі з руды жалеза выплаўляць.

З цікавасцю наглядаў за работай купцоў гаспадар вострава, асілак Брадзіла. І сам з дружынаю дапамагаў ён купцам караблі рабіць, жалеза плавіць, у дарогу збірацца.

Вось як паехалі купцы замежныя, склікаў Брадзіла дружыну сваю і кажа:

— Вялікае багацце захавана ў зямлі нашай. Будзем здабываць яго—спатрэбіцца яно ў гаспадарцы.

Дружна закіпела работа. Выбралі самы вялікі з астравоў, пабудавалі печы, кузні ды пачалі жалеза здабываць, а з жалеза розныя прылады вырабляць.

Лягчэй з таго часу стала людзям жыць: аралі яны зямлю цяпер жалезнымі нарогамі, касілі жалезнымі косамі, жалі жалезнымі сярпамі, усё жалезнымі прыладамі рабілі. А дагэтуль усе прылады з дрэва ды каменняў былі.

Старэйшыя браты Вадзіла і Раціла спярша толькі зайздросцілі малодшаму брату, а потым узялі ды пайшлі на яго вайною, каб захапіць сабе яго багаты во-



*Асілак Рацiла.*



*Асілак Брадзіла.*

страў з усімі кузнямі і ўсімі прыладамі жалезнымі. Падплылі яны на караблях да вострава ды пачалі стрэлы пускаць крамнёвыя. Але раптам зноў узнялася навальніца страшэнная і затапіла караблі тыя разам з братамі і іх дружынамі.

Калі даведалася аб гэтым няшчасці маці асілкаў, Пралеска, пракляла яна возера неспакойнае і загадала вятрам буйным высушыць яго.

З таго часу Проня-рака крута павярнула ўлева і перастала слаць свае воды ў заклятае возера. Высушылі вятры возера, пакрылася яно травою рэдкаю, і празвалі яго людзі Галым балотам, а астравы на ім—Жалезным, Брадзілавым, Жураўлiным.

Казалі старыя: датуль мёртвым Галае балота будзе, пакуль не народзіцца новы магутны асілак; разаб'е той асілак молатам сваім спрадвечнае цяжкае закляцце. Тады зноў адкрыюцца людзям багацці, захаваныя ў зямлі гэтай. Зноў будуць людзі здабываць жалеза ды вырабляць з яго прылады яшчэ нават лепшыя, чым вырабляў Брадзіла.

І гэта цяпер збылося...



# НА БАБРОВАЙ ГРЭБЛІ

О. МЕРЖЫЕЎСКАЯ

Мал. Д. Красільнікава

У гарачы летні дзень па палявой дарозе ішла група рэбят. За плячыма ў кожнага быў паходны рукзак. Сярод рэбят вылучалася высокая фігура ўжо не маладога чалавека. Гэта быў кіраўнік групы экскурсантаў. Ласкава глядзеў ён на сваіх выхаванцаў, якія бадзёра шагалі па пыльнай дарозе.

Хутка рэбяты падышлі да рэчкі і накіраваліся ўздоўж берага. Абапал рэчкі цягнуўся луг, усыпаны кветкамі. Паветра тут было свяжэйшым, і рэбяты дыхалі на поўныя грудзі, любуючыся прыгажосцю летняй прыроды.

— Пятро Іванавіч, да лесніка далёка яшчэ?—запытаўся самы меншы з экскурсіі Міця Самохін.

— Не, кілометра паўтара, — адказаў кіраўнік, глянуўшы наперад, дзе відаць быў высокі лес.

Неўзабаве экскурсія падышла да лесу. На ўскрайку лесу стаяла хата, акружаная маладымі бярозкамі.

— Ну, вось і прышлі,—сказаў Пятро Іванавіч.

Ля варот іх з гучным брэхам сустрэў вялікі кудлаты сабака, а праз хвіліну на ганак вышаў гаспадар—стары ляснік. Ён далікатна прывітаўся з настаўнікам і паківаў галавою рэбятам.

— Прымай гасцей, Патап Сафронавіч,—сказаў настаўнік.—Зімой, бач усё па кнігах вывучалі, а зараз будзем з жывой прыродай весці назіранні. Захацелі рэбяты бабровую калонію паглядзець.

— З ахвотай пакажу,—адказаў ляснік.

Адпачыўшы, рэбяты рушылі ўздоўж рэчкі па лясной сцежцы. Вёў экскурсію зараз стары ляснік Патап Сафронавіч. Высокія ёлкі і сосны ціха шумелі сваімі верхавінамі. Рака то адыходзіла ў бок ад сцежкі, то зноў набліжалася. Сонца ўжо хілілася к захаду. Паветра стала халаднейшым.

Па дарозе рэбяты засыпалі лесніка рознымі пытаннямі. Стары вучыў іх вызначаць узрост дрэў па спілаваных пнях, расказваў, якія птушкі і звяры водзяцца ў гэтым лесе.

Але вось пачалі часцей трапляцца ліцсвеныя дрэвы, пад нагамі адчувалася вільгаць, прасочвалася вада. Прайшоўшы яшчэ крыху лесам, экскурсанты вышлі да рэчкі.

— Вось і бабровая грэбля,—сказаў ляснік.

Яшчэ здалёк рэбяты ўбачылі шмат хворасту, які, як ім здавалася, быў проста накіданы ўпоперак ракі. Калі падышлі бліжэй, дык убачылі, што хворастам былі перавіты даволі тоўстыя бярвенцы і каменні. Шчыліны былі закладзены невялікімі каменнямі і замазаны глінай. Рэчка была мелкая, вада празрыстая, і рэбяты маглі добра разгледзець грэблю. Знізу яна была метраў каля двух шырыні, а зверху звужвалася да поўметра.

— А можна прайсці па грэблі?—запытаўся ў лесніка Коля Сямёнаў.

— Калі ласка,—адказаў ляснік.—Можаш і палку ўзяць ды вышыню памераць.

Коля ўзяў палку і пайшоў па грэблі. На сярэдзіне ракі ён апусціў палку ў ваду, а потым выняў.

— Ого, сказаў ён,—метра паўтара будзе.

— Гэта грэбля яшчэ не вельмі вялікая,— сказаў Пятро Іванавіч.—На вялікіх рэках ёсць куды большыя грэблі. У Паўночнай Амерыцы ёсць бабровыя грэблі да 200 метраў даўжынёй і да 2—3 метраў вышынёй.

Рэбяты ўважліва аглядалі грэблю.

— Тут дзіркі ёсць!—ускрыкнуў Міця Самохін, забегшы на другі бок ракі.

— Учора вялікі дождж быў, дык вада, мабыць, размыла,—растлумачыў ляснік.—Але гэта нічога: яны хутка адрамантуюць.

— Дзядуля, а дзе-ж бабры?—запыталіся рэбяты.

— Удзень іх тут не ўбачыш. Яны цяпер у сваіх норах сядзяць.

І ляснік паказаў рукою на вялікія кучы хворасту, падобныя на старыя копы сена, якія знаходзіліся недалёка ўверсе па плыні ракі.

— А навошта бабры грэблю робяць?—зноў запыталіся рэбяты.

— Каб затрымліваць ваду на пастаянным узроўні і мець заўсёды падводныя ходы зносін з жыллём. Кучы хворасту—гэта бабровыя хаткі. Кожная такая хатка мае два паверхі — верхні, сухі, і ніжні, які мае выхады ў ваду. У верхнім памяшканні жыве сям'я баброў, а ў ніжнім яны хаваюць свае харчовыя прыпасы: галінкі вербалозу, топалю, альхі, ясеню, бярозы.

— Дзядуля, а ці нельга баброў паглядзець?—звярнуўся Міця да лесніка.

— Можна, але толькі ўночы.

— Дык мы астанемся тут нанач і будзем наглядаць з-за кустоў, — загаманілі рэбяты.

— Гэта можна,—сказаў ляснік, — толькі сядзець трэба вельмі ціха. Бабёр—жывёла асцярожная, блізка да сябе чалавека не падпусціць.

— Мы будзем ціха сядзець!—закрычалі рэбяты. — Пятро Іванавіч, дазвольце нам астацца тут нанач.

Настаўнік згадзіўся.

— Толькі ў засаду садзіцца яшчэ рана, — сказаў ён.—Мы можам адпачыць тут дзе-небудзь недалёка.

Яны прайшлі крыху лесам і вышлі да сухога берага рэчкі, асветленага заходзячым сонцам. Тут экскурсія спынілася на адпачынак.

Пятро Іванавіч з леснікам селі на беразе, а рэбяты пачалі купацца. Выкупаўшыся, яны па адным сталі далучацца да настаўніка і лесніка.

— Дзядуля, а ці шмат бабровых грэбляў на гэтай рэчцы?—распытвалі рэбяты.

— Ёсць некалькі, але калоніі баброў тут невялікія. А вось калі спусціцца кілометраў на 25 уніз па плыні, дык недалёка ад таго месца, дзе наша рака ўпадае ў Бярэзіну, жыве вялікая калонія баброў, і грэбля там таксама вялікая.

— А каналаў для сплава лесу яны тут не робяць?—запытаўся Пятро Іванавіч.

— Не, — адказаў ляснік. Тут лес блізка.

Пятро Іванавіч расказаў рэбятам, што ў тых месцах, дзе лес далёка ад калоніі баброў, яны для сплаву патрэбнага ім лесу карыстаюцца ручаямі, рэчкамі, азёрамі. Часамі нават самі капаюць каналы, якія злучаюць з рэчкамі ці азёрамі. Плаваюць бабры добра, бо ў іх на задніх нагах ёсць між пальцамі перапонкі. Таксама дапамагае ім плаваць і шырокі плоскі хвост. Баб-



*Адзін з іх давалі блізка падышоў да куста.*

ры належаць да атраду грызуноў. Пярэднія зубы ў іх растуць увесь час. Сваімі моцнымі зубамі яны могуць падгрызаць вялікія дрэвы, патрэбныя на пабудову грэбляў і хатак. Футравіна баброў вельмі пушыстая і цэніцца дорага.

Калі пачало цямнець, экскурсія вярнулася назад да грэблі. Выбралі недалёка ад берага густы вялікі куст, разаслалі палаткі і паселі. Сядзець было не вельмі зручна, але рэбяты строга захоўвалі цішыню—не размаўлялі і не варушыліся. Ноч была светлая, і відаць было далёка.

Раптам ля берага ракі пачуўся шум са свістам. Рэбяты ўбачылі каля дзесятка цікавых звяркоў, якія асцярожна аглядваліся па баках. Потым звяркі павольна пайшлі наперад. Адзін з іх даволі блізка падышоў да куста, пад якім сядзелі рэбяты. Гэта быў пушысты звярок, каля метра даўжыні, з доўгім шырокім плоскім хвастом, які нязграбна цягнуўся па зямлі. Тупой мордачкай абнюхваў ён прадметы і, згорбіўшы спінку, ішоў наперад. Нарэшце, ён сеў каля маладой бярозкі, і адразу пачуўся скрып, падобны на хуткае пілаванне. Праз некалькі хвілін дрэва паваліласся ў бок ракі. Не трацячы часу, бабёр пачаў адкусваць галінкі. Ачысціўшы дрэва ад галін, ён пачаў перагрызаць яго на кавалкі даўжынёй метраў па два. Аднекуль з'явіліся яшчэ два бабры, і яны пачалі каціць бярвенцы да ракі. Кацілі лапамі, штурхалі хвастамі. Потым скочвалі бярвенцы ў ваду і самі скакалі ўслед за імі. Далей працавалі ўжо ў вадзе.

— Глядзіце, маленькія,—не спярпеўшы, прашаптаў Міця.

Усе ўбачылі бабра, які цягнуў у зубах кавалак вербалозіны. Следам за маткай спяшаліся трое малых, стараючыся дапамагчы ёй цягнуць бервяно. Хутка сям'я схавалася ў рэчцы.

Недалёка зноў пачуўся скрып і зашумела падаючае дрэва, але разгледзець работу баброў нельга было.

— Ну, рэбяты, можа хопіць?—сказаў Пятро Іванавіч.

Рэбяты ўсталі. Як толькі звяркі пачулі шум, яны адразу кінуліся ўцякаць да рэчкі і з шумам падалі ў ваду. Праз некалькі хвілін усё заціхла, нібы ніякай работы тут і не было.

Задаволеныя рэбяты вярнуліся да лесніка і пaляглі спаць у пуні на сене.



## ЛЮБЛЮ ВЯСНУ

Люблю вясну, люблю гамонку птушак,
Люблю прастор квітнеючых палёў,
І шум вады, і звон казюлек, мушак,
І песню гулкую магутных трактароў.

Люблю вясну, зялёныя лісточкі,
Люблю пяшчотны подых вецярка,
Люблю збіраць пахучыя званочкі,
Люблю цябе, шумлівая рака.

Люблю вясну, люблю сваю краіну,
Люблю калгасныя палі, сады.
Люблю цябе я, жытняя раўніна,
Дзе зацвітае колас малады!

**Стась Тафілін.**

# Манчжурскі арэх

Арэшнік, які расце ў нас,—гэта невысокія галіністыя кусты. Але, аказваецца, не ўсюды расце такі дробны арэшнік. Манчжурскі арэх, напрыклад, дасягае 25 метраў у вышыню. Гэта цікавае і карыснае дрэва. У нас яно расце на Далёкім Усходзе. Але вучоныя даводзяць, што манчжурскі арэх можа расці і ў Беларусі. І зараз праводзяцца вопыты па развядзенню гэтага дрэва ў нас.

Навошта вучоныя гэтым займаюцца? Хіба ў нас мала сваіх розных дрэў? А можа проста дзеля цікавасці? Зусім не.

Справа ў тым, што дрэва манчжурскага арэха карыснае, як кажуць, «з ног да галавы». З маладых лістоў яго робяць лекі ад залатухі, рахіта і іншых хвароб. Кара дрэва і шкарлупіна арэхаў ужываецца для дублення скур. А з саміх арэхаў здабываюць масла. Кожнае дрэва дае ў год 200 кілограмаў арэхаў. Цікава адзначыць, што арэхі гэтага дрэва маюць да 60 процантаў тлушчу. Пасля аджымкі масла, рэшткі арэхаў ужываюцца для кандытарскіх вырабаў.

Нарэшце, сама драўніна манчжурскага арэха дае вельмі добры матэрыял для сталярных вырабаў. Лепшыя шкатулкі, дарагая мэбля, раялі пакрываюцца самымі тонкімі лістамі арэхавага дрэва.

Дрэва манчжурскага арэха можа расці да 200 год. Вось чаму вучоныя і зацікавіліся гэтым дрэвам.

Недалёка ад Гомеля, на вопытным участку Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі праводзяцца назіранні за тым, як расце гэтае дрэва ў нашым клімаце. Недалёкі той час, калі манчжурскі арэх акліматызуецца і пашырыцца па ўсёй Беларусі.



*На здымку: дырэктар інстытута В. М. ІВАНОЎ праводзіць назіранне за манчжурскім арэхам.*

Там-жа інстытут займаецца вопытамі і над развядзеннем іншых дрэў, што растуць за межамі нашай краіны. Задача гэта вельмі карысная. Нашы лясы, паркі, вуліцы адноўленых гарадоў павінны папоўніцца новымі карыснымі пародамі дрэў.

У гэтай цікавай рабоце могуць прыняць удзел і піонеры. Дзеля гэтага дружынам, якія вывучаюць свой край, раім наладзіць цесную сувязь з інстытутам (Гомель, Пралетарская вул.)

**А. ДЗІТЛАЎ.**

## *Кніга беларускіх рэбят*

У красавіку піонеры 37 Мінскай школы прыслалі ў газету «Піонер Беларусі» цікавы ліст. У сваім лісце піонеры расказалі, як аднойчы ў атрадзе яны разгаварыліся пра кнігі. Кожны прачытаў нямала кніг і кожнаму хацелася расказаць таварышам аб сваіх уражаннях. Асабліва шмат гаварылі аб аповесці «Сын полка», якая ўсім вельмі спадабалася. Аказалася, што некаторыя піонеры самі былі на франтах і ў партызанскіх атрадах. Яны прымалі ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне. Алік Казлоў за геройскі ўчынак на фронце ўзнагароджан медалем «За адвагу». З цікавасцю слухалі піонеры жывыя праўдзівыя апавяданні пра геройчныя ўчынкі сваіх сяброў.

— Вось-бы запісаць усё гэта ў кніжку!— усклікнуў Вова Сасіноўскі.—Цікава магло-б атрымацца! І калі-б у гэту кнігу пісалі ўсе рэбяты.

Прапанова Вовы ўсім вельмі спадабалася.

Так узнікла ў піонераў думка аб напісанні сваёй кнігі.

Добры пачын піонераў 37 Мінскай школы падтрымалі беларускія вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі. Яны абяцаюць рэбятам дапамогу.

Усе вы, рэбяты, павінны прыняць удзел у стварэнні гэтай кнігі. Пішыце нарысы, апавяданні і вершы аб дзецях-удзельніках Айчыннай вайны, а таксама аб сваім удзеле ў адбудове краіны. Пішыце тое, што было ў сапраўднасці. Свае матэрыялы шліце па адрасу: Мінск, вул. Пушкіна, 55, рэдакцыя газеты «Піонер Беларусі».




































# Вучыся

Следапытам звычайна называюць чалавека, які па слядах на гразі, пяску, па абгрызенай галінцы дрэва, шматку поўсці распазнае, які звер прайшоў і што гэты звер тут рабіў.

Следапыт добра ведае лясное насельніцтва. Ён выдатны паляўнічы, здабытчык пушніны. Ён дапамагае ў ахове каштоўных звяроў і птушак. Следапыт павінен мець добрыя навыкі, каб, як кажуць, беспамылкова «чытаць» жыццё звяроў.

Каб стаць следапытам, трэба спачатку вывучыць сляды хатніх жывёл і птушак. Хто добра ведае сляды хатніх жывёл, таму лягчэй вывучыць і сляды дзікіх жывёл. Напрыклад, след сабакі падобны на след ваўка, лісіцы. Дзікія лясныя сваякі знойдуцца і ў каровы, казы, свінні, кошкі, курыцы, качкі.

У кожнага звера свае асаблівыя сляды, якія таксама не заўсёды бываюць аднолькавымі. Паспрабуй напісаць які-небудзь сказ павольна, а потым вельмі хутка: ты амаль не пазнаеш свой почарк. Гэтак і сляды звера: калі ён ідзе крокам, будзе адзін след, а калі бяжыць рыссю, галопам, кар'ерам — зусім іншыя сляды. Прасачы гэта на слядах сабакі. Змерай лінейкай адбіткі пярэдняй і задняй лапы сабакі. Заўваж, як ён ставіць ногі, калі ідзе крокам. Потым прасачы яго сляды, калі ён бяжыць рыссю. Кінь палку, каб сабака пабег за ёй кар'ерам. Цяпер параўнай сляды і заўважыш, што яны неаднолькавыя. Усе гэтыя змены ў слядах замалюй для памяці ў спецыяльным сшытку.

Апрача таго, у залежнасці ад цвёрдасці грунта, сляды аднаго і таго-ж звера будуць розныя. Прабягаючы па цвёрдай глебе, звер пакідае лёгкія, але вельмі выразныя сляды. І наадварот, як толькі звер вышаў на рыхлы грунт — сляды глыбокія, невыразныя. Яны расплываюцца, нібы лапы звера зрабіліся шырэйшымі.

На глыбокім, рыхлым пяску звер пакідае след у выглядзе ямінак; адбіткаў пальцаў і кіпцюроў не відаць. Па гэткаму следу вельмі

# ЧЫТАЦЬ сляды

цяжка пазнаць, чый ён, а яшчэ цяжэй вызначыць, у якім напрамку звер пайшоў. Прасачы гэта таксама на слядах сабакі. Заўваж, што з аднаго боку следа ўтварылася рыска («хвосцік») на пяску, а з другога боку — драбнюсенькія камячкі пяску. Гэтыя камячкі выкінуў сабака нагой, выцягваючы яе з пяску. Камячкі заўсёды будуць з таго боку следа, куды звер пайшоў, а рыска — наадварот, адкуль ён ішоў.

Калі доўга не было дажджу, на пяску, на лясной палянцы, ля берага ракі з'яўляецца шмат слядоў. Тут могуць быць і сляды звяроў і птушак сёнешняй ночы і сляды мінулага тыдня. Каб не зблытаць, не нарабіць памылак у распазнаванні слядоў, патрэбна ўмець вызначаць, які след свежы, а які даўні. Гэты навык набываецца практыкай. Практыкавацца ў распазнаванні даўнасці слядоў можна на сваім двары, у садзе на пяску. А лепш за ўсё назіраць сляды на беразе возера, рэчкі, куды звяры і птушкі прыходзяць напіцца. Прасачы, як мяняюцца сляды ў залежнасці ад надвор'я і даўнасці.

Бывае, што бераг ракі або возера зарос травой, і сляды звяроў цяжка заўважыць, тады лепш зрабіць «гразёвы альбом». Яго зрабіць не цяжка: расчысціць невялічкую пляцоўку і пакрыць яе паверхню гразёю або ілам з дна ракі. Для прыманкі звяроў і птушак накідай рыбак, жаб, зярнят, хлеба. Праз дзень ідзі да свайго «альбома» і паспрабуй «прачытаць», хто ўчора «распісаўся» ў тваім альбоме. Потым папраўняй мокрай галінкай пляцоўку, або панасі свежага ілу. Пры дапамозе «гразёвага альбома» можна добра напрактыкавацца ў распазнаванні слядоў. Лепш за ўсё, калі гэтай цікавай работай зоймецца атрад або гурток юных следапытаў. Калі кожны з вас будзе мець вопыт у распазнаванні слядоў звяроў, правядзіце праверку ведаў юных следапытаў свайго гуртка. Для гэтага схадзіце ў лес. Кожны павінен рашыць якую-небудзь задачу: расказаць, гледзячы на след, чый ён, куды пайшоў звер, калі гэты звер быў тут.
























(З народнага)

*Максім ЛУЖАНІН*

*Мал. В.Ціхановіча*

На праходку вышаў вожык,
Ногі размінае,
А насустрач, па дарожцы,
Заяц калдыбае.

Як сышліся: лапы ціснуць,
Пысу ў пысу туляць:
— Як здаровенькі, суседзе,
Што добрага чулі?

— Нешта рана самі ўсталі,—
Заяц запытаўся.
— Тут сабакі якаталі, —
Вожык абазваўся.

Але заяц ганарыцца:
— Што тыя сабакі!
Мяне нават ліс баіцца, —
Даўся яму ў знакі!

І з ваўчынае бярлогі
Вырваўся жывы я,
Бо, перш-на-перш, маю ногі,
Не твае—крывыя.

— Пражыву сабе з крывымі, —
Кажа ціха вожык, —
А вось ты мяне з даўгімі
Перагнаць не зможаш.

Заяц кінуўся ў разору,
З рогату аж рэхча,
Пасмяяўся і гаворыць:
— Ну, дык можна бегчы?

Але вожык разважае,
Глянуўшы на неба:
— Мяне снеданне чакае,
Падмацунак трэба.

Зайду ў хату; сёе-тое
З жонкай перакусім.
Ды, перш-на-перш, мы з табою
Залажыцца мусім.

— Залажыцца? Гэта можна.
Давай на поўкварты.
— Я не п'юшчы,—кажа вожык,—
Гэтага не варта.



Лепей выберам мы нешта
Кожнаму да густу:
Мне—мех рэпы прынясеш ты,
А я—мех капусты.

Згода?
— Згода!—
Заяц рады,
Цешыцца, смяецца,
А тым часам на параду
Вожык падаецца.

Кажа жонцы:
— Ну, старая,
Памагай сягоння:
Аб заклад пабіўся заяц,
Што мяне дагоніць.—

Шум у хаце, дзеці плачуць,
Жонка мужа вучыць:
— Звар'яцеў ты неіначай,
Елупень калючы!

Гэта-ж трэба выбраць пару,
З кім ты бегчы маеш?
Нават коням не таварыш
Доўганогі заяц.

Лепш сядзі, лаві ты мышы
Ля свайго парогу.
Мусіць хочаш, каб я вышла
Замуж за другога?

Гаварыла, галасіла,
А пасля за вожаг.
— Пачакай, не ў гэтым сіла!—
Падаў голас вожык.—





Справы мала, крыку многа,
Не траць марна слёзы:
У зайцоў даўгія ногі,
Ды кароткі розум.

Бачыш гэтую разорку?
Паўзі ёю проста
Аж ад самага ўзгорку,
Ля старога моста.

А па гэтай вось разорцы
Паімчыцца заяц.
Як ён выбежыць на ўзгорак,
Ты крычы:
—Чакаю!

Пасмірнела гаспадыня,
Вожыка частуе,
То пагладзіць, то абдыме,
То лобік цалуе.

Выеў вожык міску кашы,
Выпіў мёду потым.
— Ну,—прамовіў,—
Дзякуй, Маша,
Час і за работу!

Толькі сталі вожык з жонкай
З двух бакоў разоры,
Прыбег заяц баразёнкай:
— Ты гатоў?—гаворыць.

Цераз зубы цэдзіць словы
Заяц зухаваты:
— Я падбіў сабе падковы,
А то слізкавата.

— Добра,—кажа вожык,—
Рушым.
А сам—ані з месца.
Толькі вецер свішча ў вушы,—
Заяц так нясецца.

Прыляцеў на той бок поля,
Наўкол пазірае:
Сядзіць вожычыха доле,
—Я ўжо тут!—гукае.

— Што за ліха?—кажа заяц.—
Тут нядобра штосьці.
Дай назад яшчэ злятаем,
Распрастаем косці.

Згода?
— Згода!
На ўсе жылы
Бедны заяц пнецца,
Прыбягае, дух забіла,
А вожык смяецца:

— Слабаваты, кум, на ногі.
Я ўжо тут чакаю.
— Дай яшчэ раз?
— Будзе многа,
Ты саслабнеш, заяц.

— Я саслабну? Што ты, што ты!
Знаю сіле меру!

— Ну, як гэткая ахвота,
Прабяжым яшчэ раз.

Бегаў заяц разоў сорак,
Бразгатаў нагамі
То з узгорка, то на ўзгорак,
А вынік—той самы.

Страціў выгляд зухаваты,
Ледзь прамовіў слова:
— Тут падковы вінаваты,
Цяжкія падковы.

А да ладу ўзяць не можа
Простае гамонкі,
Што па той бок поля—вожык,
А па гэты—жонка.

Панёс вожык рэпу ў хату
І смяецца зноўку:
— Калі ногі слабаваты,
Не віні падкоўкі!



## ДЗЕСЯЦЬ РАБОТНІКАЎ

*М. КАЦЮБІНСКІ*

**Зайшоў я аднойчы да адной жанчыны ў хату—Адаркай звалі гэту жанчыну. Гляджу, у яе ў хаце так чыста, прыгожа так; дзеці памытыя, акуратна адзетыя, абед звараны.**

**— Як вы паспяваеце ўсё гэта зрабіць?—пытаюся я ў Адаркі.**

**А яна кажа:**

**— Як-жа мне не паспець!—У мяне-ж на паслугах дзесяць работнікаў. Яны слухаюць мяне; што скажу—робяць, адзін аднаму дапамагаюць.**

**— Якія-ж гэта ў цябе работнікі?**

**— Ды вось яны!—засмялялася Адарка і паказала свае дзесяць пальцаў.**




# Парады юнаму рыбалову

*Л. БАЙДАКОЎ*

*Мал Ю. Пучынскага*

Спосабаў лоўлі рыбы вельмі шмат, але самым цікавым з'яўляецца лоўля вудачкай.

Вуда — прасцейшая прылада для лоўлі рыбы. Яна складаецца з вудзільна, лёскі, кручка, грузіла і паплаўка. Яе няцяжка зрабіць самому. Выраж арэхавы ці бярозавы тонкі прут даўжынёй у 3—4 метры. Абрэж сучкі і прымацуй прут цвікамі да роўнай дошкі, каб ён высах. Кару з прута не знімай, бо белае вудзільна больш прыкметна для рыбы. З валасоў конскага хваста зрабі леску. Лепш браць белы конскі волас.

Калі вудзільна высахне, прымацуй да яго леску з кручком і грузілам. Грузіла робіцца з кавалачка волава і прымацоўваецца да лескі, на 20 сантыметраў вышэй кручка. А яшчэ вышэй прымацоўваецца паплавок, які робіцца з гусінага пяра, або звычайнага корка і афарбоўваецца ў яркі колер.

У залежнасці ад таго, якую рыбу ты мяркуеш лавіць, такую робіш і вуду. Для ўклейкі і плотвы вудзільна павінна быць лёгкае, гібкае; леска—з 2—4 валаскоў; кручок—маленькі, лёгкі. Для ляшча, ліня і галаўля кручок павінен быць сярэдняга памеру, леска — з 3—6 валаскоў, а для акуня рабі вудзільна моцнае, леску з 8 — 12 валаскоў, паплавок — вялікі, з корка.

Вось вуда і гатова. Цяпер, перш чым ісці вудзіць рыбу, трэба прывучыць яе збірацца ў тое месца ракі ці возера, на якім ты будзеш яе лавіць. Для гэтага кінь у ваду прынаду — хлеба і чарвякоў. Калі рыба бярэцца лепш раніцой — кідай прынаду вечарам. Але шмат прынады не давай, бо рыба пасля гэтага не будзе кляваць.

Галаўля трэба лавіць раніцой да ўсхода і вечарам перад заходам сонца. Летам галаўлі ходзяць ля берагоў у чароце або ў цяні дрэў, нахіленых над вадой. Галавель—рыба вельмі асцярожная. Убачаўшы на беразе рыбака, або нават яго цень, ён кідае прынаду і пераходзіць на другое месца. Ловіцца галавель на чарвяка, жывых мух, майскіх жукоў.

Плотка ловіцца на мякіш чорнага хлеба, чарвяка і муху. Добра клюе раніцой. Водзіцца больш усяго на мелкіх мясцінах ля травы.

Ліня трэба лавіць у маі, чэрвені і ў канцы лета. Лінь добра бярэцца на вуду раніцой і перад заходам сонца. Трымаюцца ліні на дне, на чыстым месцы блізка ад вадзяных зарасляў. Ліні ловяцца на чарвяка, параны гарох, хлебны мякіш і насякомых. Ранняй вясной, у паводку, у глыбокіх вірах можна лавіць язёў. Клююць язі амаль увесь дзень, але як толькі вада спадзе, ловяцца звычайна ноччу. Увосень, у пошуках яды, язі выплываюць на паверхню вады. У гэты час іх можна лавіць і ўдзень. Прынадай для іх могуць быць чарвякі, чорны хлеб, конікі, стракозы, матылі, жукі, параны авёс і пшаніца.

Амаль на самай паверхні вады статкамі плавае невялікая рыба—уклейка. Вельмі прагная да ежы, яна хапае прынаду, ледзь толькі заўважыць яе. Пры добрай яснай пагодзе ўклейка ловіцца ўвесь дзень на муху і чарвяка або на мякіш чорнага хлеба.

Лешч ловіцца на чарвяка і параны авёс. Жыве ён на дне, у чыстых і ціхіх завадзях. Добра клюе ў красавіку, маі і чэрвені раніцой перад усходам і вечарам перад заходам сонца.

Яршоў трэба лавіць пасля паводкі вечарам і ноччу. Яршы трымаюцца статкамі каля дна ў месцах, дзе чыстая праточная вада. На мелкія месцы яны выходзяць толькі ноччу, каб пажывіцца. Ловяцца яршы на чарвяка. Прынаду бяруць адразу. Гэтак-жа прагна хапае прынаду акунь. Ловіцца ён усё лета ад раніцы і да ночы і толькі ў спякотныя дні з 12 да 3 гадзін дня не клюе. Жыве акунь у глыбокіх месцах з пясчаным або камяністым дном, непадалёк ад травы. Прынадай для акуня служыць чарвяк, або маленькая жывая рыбка.




*(Працяг*)*

*Янка МАУР* — *Мал. А. Волкава*

## МАЦІ

Мама мая, вядома, была самая лепшая, самая прыгожая і самая разумная з усіх жанчын. Я вельмі-б пакрыўдзіўся і ніколі не паверыў-бы, каб хто сказаў, што гэта няпраўда.

Яна была невысокага росту, досыць шчуплая, з прадаўгаватым тварам і карымі вачыма. Самай галоўнай адзнакай яе былі кучаравыя валасы. Такія валасы былі яшчэ толькі ў дзядзькі Кірылы ды ў мяне.

За ўсё сваё жыццё з ёю я ні разу не чуў і не бачыў, каб яна гучна засмяялася. У самыя вясёлыя мінуты яна толькі ўсміхалася, і мне заўсёды здавалася, што ўсмешка яе хітрая-хітрая. І гаварыла яна таксама ціха. Бывала, калі гавораць бабы, здалёк пазнаеш, якая цётка там ёсць, толькі не пазнаеш, ці ёсць там мама. І яшчэ—ніколі не бачыў я яе ў якім-небудзь светлым убранні, хоць-бы кофтачцы. На якіх кватэрах я ні жыў, я ні разу не чуў, каб мама з кім-небудзь сварылася, крычала, як гэта звычайна бывае. Мусіць, гэта яна рабіла толькі тады, калі мяне дома не было, а можа і зусім не сварылася.

Мяне яна навучала такім рэчам, якія ў нас нікому і ў галаву не прыходзілі. Перш за ўсё—не лаяцца непрыстойнымі словамі, асабліва не прышлятаць да лаянкі слова «маці».

— Такога граху бог ніколі не даруе,—казала яна.—Па-першае, ты лаеш маці-багародзіцу, па-другое, маці-зямлю і, па-трэцяе, сваю родную маці.

Ужо аднаго апошняга доваду было-б досыць, каб ніколі не лаяцца, а тут яшчэ і зямля, і багародзіца, і гнеў божы! Таму я ўвесь свой век пражыў без гэткай лаянкі, нават і тады, калі перастаў баяцца і граху, і бога, і багародзіцы, і зямлі. Толькі аднаго я баяўся ўсё сваё жыццё—абразіць памяць сваёй роднай маткі.

Апрача таго, яна давала мне такія парады, якіх, здаецца, ніхто ў нашай вёсцы і не чуў. Напрыклад: не калупаць у носе, не паказваць пальцам на каго-небудзь, не разяваць рота, шкадаваць жывёлу. Дзякуючы такім парадам, у мяне выпрацавалася інстынктыўнае адчуванне няёмкасці ў такіх выпадках, калі ніхто вакол мяне нічога падобнага не адчуваў. Я, напрыклад, не мог праціснуцца наперад да якога-небудзь новата ці наогул старэйшага чалавека, стаць перад самым яго носам і разглядаць, як гэта рабілі ўсе мае таварышы. Ніколі я не пасмяяўся з калекі, што ён культае, ці мае горб, або не мае вока. А дзеці вакол мяне ніякай няёмкасці не адчувалі.

Так навучыла мяне мая непісьменная маці.

Самым важнейшым законам у нашай сям'і быў: «трэба слухацца маткі». Але акурат з гэтым найважнейшым законам справа ўсё неяк не ладзілася. І не таму, што я не хацеў прызнаваць яго. Не, я шчыра згаджаўся, што так трэба, але то сёе, то тое перашкаджала. Не згаджацца нельга было хоць-бы таму, што на кожным кроку факты даказвалі, што гэты закон зусім правільны. Ці стрэмку ў нагу заганю, ці нос сабе разаб'ю, ці Кітка стукне мяне кулаком, ці пад дождж траплю—заўсёды я чуў грозныя ўрачыстыя словы:

— Заўсёды так бывае, калі хто маткі не слухае.

Для мяне было ясна, што калі бацькі не паслухаеш, то напляваць—нічога табе не будзе. А вось калі маткі, то бяды ўжо не мінеш. Вось добра Петрусю Жывадзёру, у якога замест маткі ёсць толькі бацька.

Але ўсёроўна я не памяняю сваёй маткі на яго бацьку. Лепш ужо буду я яе слухацца. Але вось яна ідзе за дзесяць вёрст у мястэчка і нізавошта не хоча ўзяць з сабой мяне. І прашуся, і плачу—нічога не памагае. Ну, як тут будзеш слухацца! Не, на гэты раз — толькі на гэты!—давядзецца паваяваць.

Я крыху счакаў, пакуль яна адышлася, і пайшоў следам. Заўважыла яна мяне ўжо ў полі. Спынілася і крыкнула:

*) Пачатак гл. у № 3, 4.

— Не смей ісці! Зараз-жа вяртайся дахаты!

Я спыніўся і нават нібы завярнуўся назад. А калі яна пайшла далей—і я пайшоў далей за ёй. Зноў убачыла мяне, накрычала і нават прайшла некалькі крокаў да мяне. Тады і я зрабіў столькі сама крокаў назад. А калі яна пайшла далей—і я пайшоў далей. Наступны раз яна ўжо пабегла за мной, і я ледзь уцёк. А потым зноў пайшоў за ёю.

І вось, нарэшце, прышоў час расплаты: мама пагналася за мной, не спыняючыся. Я не бег, а ляцеў, толькі вецер у вушах свісцеў, а яна не адстае, нават набліжаецца. Адчуваю, што ў мяне духі займае, вочы на лоб павылазілі, а яна ўсё не адстае. Вось ужо чую, як шамаціць за мной спадніца. О, якое жудаснае шамаценне! Мяне ахапіў такі жах, нібы гэта не родная мамка гоніцца, а ведзьма якая, ці яшчэ горш. Чую, як з майго горла сам ідзе дзікі крык. Дарэмна! Ні бег, ні крык не дапамог,—страшэнная сіла ўхапіла мяне за карак. Я змагаюся, як леў, але хутка мая львіная галава апынулася між маміных кален, а процілеглая частка цела пачала атрымоўваць тое, што ёй належала... І я зноў—ужо каторы раз! — пераконваюся, што заўсёды так бывае, калі хто мамкі не слухае.

— Яны і на тым свеце будуць пакутваць разам з тымі, хто краў, забіваў, лаяўся дрэннымі словамі, маніў,—страшыць мяне маці.

Я з жахам слухаю гэтыя словы, а перад вачыма стаіць карцінка, якая вісіць у куту ля абразоў бадай у кожнай хаце: велізарнейшы змей займае яе ўсю ад верху да нізу, а па баках чэрці з віламі завіхаюцца ля грэшнікаў, паляць, смаляць, вешаюць іх.

— А самыя страшныя пакуты будуць для тых, хто маліцца не хоча.

Ой, гора маё!. Мне-ж самому так не хочацца маліцца, так нудна бывае, калі маці прымушае паўтараць за сабой словы малітвы. Тым больш, што малітвы гэтыя такія самыя незразумелыя, як і бабуліны,—маці ведала не больш за бабулю. Пры ўсім сваім жаданні яна не магла навучыць мяне нават такой абавязковай малітве, як «Ойча наш»—выходзіла адна мешаніна.

Наогул трэба сказаць, што тады свет быў зусім не такі, як цяпер. Не было ў нашай вёсцы такога чалавека, які не даводзіў-бы, што сам бачыў якога-небудзь чорта—дамавіка, лесуна, вадзяніка, пераваратня, русалку і іншую нечысць. Яны кішэлі вакол нас і ўсюды совалі нос. Страшнаваты, таемны быў тады свет!

Быў яшчэ недзе нейкі рай, але аб ім чамусьці было вельмі мала звестак. Відаць, таму, што да нашага брата бліжэй былі чэрці ды пекла, а рай быў вельмі далёка. Аднак былі аб ім і некаторыя пэўныя звесткі—гэта з песні аб Лазары. Гэта была, здаецца, адзіная песня, якую спявала мама. Заўсёды дрыжыкі прабяталі па маім целе, калі яна ціхім-ціхім голасам пачынала:

«Жыў-быў Лазар, бедны чалавек»...

І хоць мне было добра вядома, як Лазар пухнуў ад голаду пад сталом свайго брата, як псы лізалі яму балячкі, як потым ён апынуўся на небе, а брат прасіў у яго кроплю вады, — хоць усё гэта я чуў шмат разоў, але заўсёды ахвотна слухаў яшчэ шмат разоў.

Я нездарма лічыў, што мамка мая разумней ад усіх: я ў гэтым пераконваўся кожны дзень. Не было такога пытання, на якое яна не магла-б адказаць. Ніколі не чуў я, каб яна сказала мне—«не ведаю». Нават тады, калі я ўмеў чытаць, я звяртаўся да яе з незнаёмымі словамі і заўсёды атрымоўваў адказ.

— Мама, што такое «літаратура»? — пытаюся я.



*Я спыніўся і нават нібы завярнуўся назад.*

— Кніга такая, — упэўнена адказвае яна.

— А што такое «рэальны»?

— Гэта—ралля, пахаць, дзе сеюць,—не міргнуўшы вокам, кажа мама.

Але быў адзін выпадак, калі адказ яе зусім мяне не задаволіў.

Адзінай нашай мэбляю быў куфэрак, зроблены яшчэ бацькам. У ім была сакрэтная шуфляда, якую, нам здавалася, ніхто не мог-бы знайсці. А ў гэтай шуфлядзе ляжала адна важная папера, метрыка, якая паказвала, колькі мне год. Паглядзіць хто-небудзь—і зараз-жа скажа, што мне шэсць год. Потым метрыку кладуць на месца, зачыняюць, не чапаюць яе. А калі праз некаторы час паглядзяць у яе зноў, то кажуць, што мне ўжо сем гадоў. Якім чынам яны пазнаюць?

— Мама, ты насіла куды-небудзь маю метрыку, каб запісалі мае гады?—пытаюся я.

— Навошта? Там ужо запісана.

— Тамака-ж было запісана шэсць гадоў!—дзіўлюся я.—А хто запісаў, што мне ўжо сем.

— Ніхто. Яна сама паказвае. Ляжыць сабе і паказвае.

— Сама?..

Такі цуд я ўжо ніяк не мог зразумець. І мамiна тлумачэнне мне нічога не дало. Калі і як я разгадаў сакрэт—не ведаю. Ведаю толькі, што доўга яшчэ мучыла мяне гэтая таямнічая метрыка.

Уся наша вёска, апрача чатырох гаспадарак, была бядняцкая. І маці мая жывілася каля гэтых беднякоў. Там паможа малаціць, там—малоць (на ручных жорнах), увесну—агароды садзіць, улетку—палоць, сена збіраць, увосень — бульбу капаць—кожны раз у новых гаспадароў.

За гэтую працу яна сёе-тое прыносіла ў хату—і ўсё патрошку. Калі мукі,—дык жменьку. калі малака,—дык палову кубачка, калі гароху,—дык штук паўтараста, бульбін—пяць, хлеба—скібачку і гэтак далей. І заўсёды з гэтага малога выходзілі стравы смачныя і спорныя. Мне іх хапала заўсёды.

Вельмі было дарэчы, што мама не любіла акурат тое, што я вельмі любіў. Калі часам траплялася малако, то мама мне ў жытнюю зацірку ліла многа, хоць лыжак пяць, а сабе— нічога, хіба ў крайнім выпадку адну лыжку. А калі я пачну дапытвацца, чаму яна сабе не лье, то яна заўсёды адказвала, што не любіць малака. Часам я пытаўся:

— А ці праўда, што ёсць такія людзі, што п'юць адно малако?

— Памешчыкі могуць піць адно малако—у іх кароў многа.

— А можна зацірку варыць з адным малаком, без вады?

— Можна. Але навошта табе пра гэта думаць? Гуляй сабе.

Разы са два на год аднекуль трапляў да нас зашмальцаваны кавалак цукру. Тут выявілася, што мама таксама і цукру не любіць. Гэта было ўжо занадта.

— Мамка!—дзівіўся я.—Ну, хіба можна не любіць цукру?

— Цукар любяць толькі дзеці, — адказвала яна.—А дарослыя яго не любяць.

Такому тлумачэнню я вымушан быў паверыць, бо сапраўды не бачыў, каб цётка Вулька, ці дзядзька Гаўрыла або хто іншы з дарослых ужывалі цукар.

Ну, добра, хай яно так, але чаму мамка не любіць яшчэ і смятаны, і сала, і яйка? Ішлі месяцы, гады, паступова я да гэтага прывык, стаў лічыць, што гэтак трэба, і ніякіх пытанняў наконт гэтага больш не задаваў.

За ўвесь час нашага жыцця ў вёсцы быў толькі адзін выпадак, калі ў нас з'явілася парасё. Якое яно было прыгожанькае, рахманае, як мы з яго цешыліся! Але гадаваць яго так і не давялося—не было чым карміць, бо мы нават сваёй градкі не мелі. Скончылася тым, што парасё хутка закалолі, і з'еў яго я адзін: маці і парасяціны не любіла...

Каб раз і назаўсёды пакончыць з беднасцю, маці аднаго разу надумалася гандляваць гарэлкай. Гэты перыяд прыпамінаецца мне досыць цьмяна. Было гэта не ў цётак, а на нейкай асобнай кватэры, чыстай, з падлогай. Самая галоўная рэч тут была—смешны збан, акурат як гарбуз, толькі з ручкай і горлам. У ім была гарэлка.

Прыходзілі дзядзькі з рыжымі барадамі. Усе яны былі добрыя, вясёлыя, лагодныя і частавалі гарэлкай мяне. Жыць на свеце было зусім добра. Але раптам усё гэта шчасце знікла, хуценька, ціхенька, невядома чаму і як. Знікла з усёй кватэрай і з падлогай. Застаўся толькі адзін гарбуз, які яшчэ доўгія гады служыў нам верай і праўдай, але ўжо без гарэлкі.

Пазней я даведаўся, што добрыя і лагодныя дзядзькі выпілі ўсю гарэлку ў доўг, а болей нам не было за што купіць.

Бліжэйшая крама была ад нас за дзесяць вёрст. Таму раз у месяц прыходзіў да нас стары Лейзер. Ідзе па вуліцы з вялізным цюкам на спіне і крычыць:

— Цытворы, камфоры, абшывікі, пувікі!..

А калі адчыніць сваю каробку, то аж галава кружыцца, не толькі ў мяне, але і ў кожнага добрага чалавека. Чаго толькі там не было! Не толькі абшывікі і пувікі, але і ўсё, што толькі

ёсць на свеце. І кожны ад першага да апошняга жыхара вёскі знаходзіў акурат тое, што яму патрэбна ў жыцці. Быў тут прадмет, неабходны і для майго жыцця: губны гармонік. Але ён каштаваў цэлых пятнаццаць капеек. Ну хто мог яго купіць? Нават дзядзька Мікола не мог купіць свайму разумнаму Петрыку.

Я неяк заікнуўся быў перад мамкай, але яна абняла мяне ды адвяла ўбок.



*Прыходзілі дзядзькі з рыжымі барадамі.*

— Нельга, сынок, няма за што купляць такія рэчы,—сказала яна, цалуючы мяне.

Я і сам ведаў, што няма за што, і прывык да гэтага настолькі, што ні на каго не крыўдзіўся і не вельмі гараваў. Таксама, як не крыўдзіўся і не гараваў, што не магу лётаць, як птушка.

Але так было толькі да таго часу, пакуль я не даведаўся, што мы зусім не бедныя, а наадварот—нават вельмі багатыя. Здарылася гэта выпадкова. Мамка звычайна хавала ад мяне свае грошы, але аднаго разу ці то забылася, ці палічыла магчымым даверыцца мне, узяла з сакрэтнай шуфляды сваю хустку ды і разгарнула пры мне.

І вось я тут убачыў такое багацце, якое мне ніколі і не снілася: у адным канцы хусткі было звязана шмат срэбраных залатовак, грыўняў, саракоўак—усяго, мусіць, штук дзесяць, калі не болей, а ў другім канцы—вялізная жменя медзякоў.

— Гэта нашыя грошы?!—закрычаў я з такой радасцю і з такой прагнасцю, што мама хуценька схавала іх ад мяне.

Яна пачала была тлумачыць мне нешта накшталт таго, што грошай тут зусім мала, але я быў не такі ўжо дурны, каб даць веры. Хіба не бачыў я сваімі вачыма гэтыя грошы? У цёткі Вулькі, напрыклад, рэдка калі была хоць адна залатоўка, а тут гэтулькі іх.

Я стаў чакаць выпадку скарыстаць наша багацце. І гэты выпадак трапіўся, калі мы адправіліся за трыццаць пяць вёрст на кірмаш у манастыр. На гэты кірмаш, раз у год, ездзіла і ішла, здаецца, уся наша вёска. Мы былі ў ліку тых, хто ехаў. Як гэта здарылася,—не разумею, бо такіх шчаслівцаў наогул у вёсцы было мала.

Ужо адна дарога была для мяне падарожжам на край свету. А там, на месцы, было ўжо нешта зусім грандыёзнае: шум, гоман, звон, крыкі, спевы і царкоўныя і п'яныя, музыка, скокі, працэсіі. Каля манастыра стварыўся цэлы лес з паднятых угару аглабель. Пад гэтымі аглоблямі мы жылі два дні. Тут былі і Грышка, і Цімка, і Кімка, але мне з імі не давялося пабываць ні хвілінкі: мамка не адпускала мяне ад сябе ні на крок. І хоць мне з ёю было зусім нядрэнна, але дрэнна было тое, што яна надта многа часу аддавала царкве і богамаленню. Вельмі нудна было стаяць доўга ў царкве, не лепш было ісці побач з мамкай, калі яна разам з другімі жанчынамі паўзла на каленях вакол царквы, і зусім не цікава было праціскацца, каб пацалаваць то сёе, то тое, у тым ліку руку якога-небудзь бацюшкі. Мама казала, што калі каго перахрысціць бацюшка, то той будзе шчаслівы. А гэты бацюшка хрысціў так, нібы мух адганяў, нават не глядзеў на таго, каго хрысціў, і таксама не гледзячы соваў сваю руку, каб яе пацалавалі, а ты лаві сабе гэтую руку як хочаш.

Але я надта не скардзіўся на ўсе гэтыя турботы, бо мамка некалькі разоў купляла мне то абаранак за капейку, то некалькі цукерак за такую-ж капейку. Але ў той-жа самы час яна

некалькі разоў купляла і свечкі для багоў за дзве, за тры і нават за пяць капеек. Адну такую свечку, з залатым паскам, я сам павінен быў ставіць багародзіцы, нібы свой уласны падарунак ад шчырага сэрца. А якое тут шчырае сэрца, калі яно ў мяне крывёю абліваліся ад жалю: не свечкі мы палілі, а мой губны гармонік!

Не ведаю, ці то я падняў гэтае пытанне, ці сама маці здагадалася растлумачыць, у чым тут справа, але выходзіла так, што траціць грошы на свечкі было нават выгадна: ты паставіш свечак на пяць ці дзесяць капеек, а божанька раздобрыцца і верне табе рубель, а можа і два, не лічачы здароўя. Дзеля таго людзі і ставяць свечкі, каб заслужыць ласку божую.

Супроць гэтага не было чаго сказаць, але чаму-ж тады мама не хоча купіць мне гармонік? І так грошай многа, ды яшчэ божанька дасць за свечкі, а мамка шкадуе... А тут, на кірмашы, гэтыя гармонікі пішчаць з усіх бакоў. Я меў усе падставы заплакаць ад шчырага сэрца...

І дзіўная рэч — мама таксама заплакала. Мусіць, за кампанію. Яна абнімала мяне, цалавала і казала:

— Сыночак мой, пацярпі... Нельга... Трэба спачатку адзенне справіць, боты... Табе трэба будзе вучыцца...

Зноў гэтае вучэнне! Колькі разоў мама казала мне аб ім, а якое яно—ніхто з нас не ведае. Школы ў нас няма, і вучня ніводнага ў вёсцы няма. Ніхто нават не думае пра вучэнне. А праз яго мама мне гармонік так і не купіла. Ні цяпер, ні потым—ніколі.

Ці ведала сама маці, дзе і якім чынам я буду вучыцца? Аб гэтым пазней я многа думаў, і мне здаецца, што не ведала. Бо ніводнага разу я не чуў ад яе ніякага меркавання, дзе яно будзе, калі і як. Я чуў толькі адно: будзеш вучыцца.

Неяк яна выказала сваю думку і перад людзьмі, але людзі паднялі яе на смех. Куды яна пнецца, гэтая няшчасная ўдава? Нават з гаспадароў ніхто не думае пра такое, а яна вунь што сабе выдумала. Тады яна схавала сваю мару глыбока ў сэрцы і выказвала яе толькі мне аднаму, ды і то рэдка. Яна не ведала, а верыла, што так будзе, што так павінна быць, а дзе і як—пакажа час. Тым болей, што часу было яшчэ досыць. Гадоў чатыры—пяць заставалася да гэтай невядомай, таемнай вучобы, а ўжо мая залатоўка замест гармоніка была адкладзена на боты.

Праз два-тры гады боты былі пабудаваны. Якія цудоўныя былі гэтыя боты! Перш за ўсё яны былі спланіраваны так, каб маглі служыць і першы год навучання і апошні год. Для гэтага трэба толькі было ў першы год напхаць туды ануч, сена, а потым з кожным годам патрохі вымаць адтуль. Халявы былі таксама незвычайныя—рознакаляровыя, з чорных, рудых, жоўтых кавалкаў. Адным словам, база для навучання была падрыхтаваная, але і тады ні я, ні хто іншы не чулі ад мамы, дзе і якім спосабам будзе адбывацца гэтае навучанне. Мусіць, і тады яшчэ яна таксама не ведала, а толькі верыла.

А я аб гэтай справе наогул нічога не думаў. Бо словы «школа» і «вучэнне» не выклікалі ў маёй галаве ніякіх вобразаў. Ды і ў нашай дзіцячай кампаніі такія словы не ўжываліся. Нашы справы былі важнейшыя і цікавейшыя.

(Працяг будзе).



*Стась ТАФІЛІН*

*Мал. В. Ціхановіча*

# ПЕВЕНЬ

Пра гэтага пеўня вам кожны чалавек можа расказаць у Рудні. Нямала ён нарабіў шуму ў вёсцы, неаднойчы ад яго плакалі дзеці; лаялі пеўня і дарослыя. І толькі дзед Базыль вельмі ганарыўся сваім пеўнем. Шанавала пеўня і бабка Наста, хоць, сказаць праўду, іншы раз бурчэла на дзеда:

— Ну, і навошта ты трымаеш такога забіяку? То ў грады завядзе курэй, то чыйго хлапца пакрыўдзіць...

Дзед у адказ толькі махне рукой.

— Эт! Нічога ты не разумееш, старая! Гэта-ж у нас самы сапраўдны гадзіннік, курант, як кажуць. Раніцою як закрычыць, дык усю вёску на ногі ўзнімае.

Певень і сапраўды меў сваю цікавую гісторыю. Тое, што ён добра спявае, дык у гэтым яго заслуга перад усёй Рудняй. Толькі па аднаму яго голасу пеўня ведала ўся вёска.

— Час уставаць,—кажа гаспадар гаспадыні,—Базылёў певень ужо крычыць.

— Ну і галасішча! Адкуль у яго толькі такое горла?—Дзівяцца вартавыя на калгасным двары.

Бываюць выпадкі, калі дзедаў певень, а за ім і другія пеўні пачынаюць крычаць апоўдні, або адвячоркам. Так і ведайце: будзе перамена надвор'я. Толькі за адно за гэта людзі звыкліся з пеўнем. Але ў пеўня былі і другія заслугі, за якія яго шанавала бабка, ганарыўся дзед, любіў унучак Алесь, а таксама і вяскоўцы.

* * *

З'явіўся певень на свет, як і другія кураняты. Бабчына любіміца курачка Рабка сядзела на яечках. На дваццаць першы дзень з аднаго яечка вылупіўся пеўнік і запішчаў пад цёплым крылом маткі, а ўжо к вечару вылупіліся і другія кураняткі—пеўнікавы браты і сёстры.

Толькі пеўнік вылучаўся ад другіх куранят афарбоўкай: кураняты былі жоўценькія, а пеўнік—карычневы і спрытнейшы за другіх. Спачатку ён бегаў услед за курачкай Рабкай, спрытна знаходзіў зярняты, чарвякоў, шпарка ганяўся за мухамі і жукамі.

Рос пеўнік, як на дражджах. Да восені ён стаў амаль дарослым, навучыўся лётаць, ды так спрытна, так шпарка, што гэтаму дзівіліся і дзед і бабка. Навучыўся крычаць сваім хрыпаватым голасам: «ку-ка-рэ-ку». І меў досыць сілы, каб пабіцца з суседскімі пеўнікамі. Біўся ён спрытна і заўсёды выходзіў пераможцам. Праўда, іншы раз даставалася пры гэтым і яму. Як-бы там ні было, але хутка певень адчуў сябе самым дужэйшым з усіх пеўняў. От тады ён ужо і пачаў біцца з людзьмі. Спачатку ганяўся толькі за малымі, а калі пасмялеў, дык і дарослым не даваў праходу.

Аднойчы ён трапіў у небяспеку. Стаяў ціхі восеньскі дзень. На небе ні хмурынкі. Толькі высока снуюць белыя павуцінкі, пераплятаюцца, чапляюцца за верхавіны дрэў.

Курачка Рабка корпалася на агародзе. Кураняты папісквалі, старанна вышукваючы ежу. І ніхто з іх не бачыць, як над агародам кружыцца чорны каршак. Ён угледзіў пеўніка, які аддзяліўся ад вывадка, і каменем рынуўся на яго. Вострыя каршаковы кіпцюры ўпіліся ў пеўня так балюча, што ён закрычаў благім голасам. Закудахталі куры, забрахаў Бобік, выбегшы на агарод.

Чорны каршак замахаў шырачэзнымі крыллямі і панёс пеўніка. Не мінавацьбы пеўніку смерці, калі-б за агародам, на іржэўніку, не пасвіў дзед Базыль авечак. Убачыў дзед каршака, які нязграбна ма-



хаў крыллямі, схапіў з пляча сваю бярданку і стрэліў. Стрэліў ён трапна. Каршак упаў на зямлю.

На аглушальны дзедаў стрэл выбегла з хаты бабка Наста, а за ёю і Алесь.

Дзед падышоў да каршака. Каршак быў паранены і трапятаўся, вінавата, як злодзей, пазіраючы на дзеда жоўтымі вачыма.

Дзед схапіў яго за шыю.

— Брэшаш, не вырвешся, зладзюга,— казаў дзед.—Не ў тыя рукі трапіў.

А пеўнік ляжаў ні жывы, ні мёртвы. З яго цельца сачылася кроў.

— А божухна мой, — залемантавала бабка.—Задушыў, пракляты, куранё.

— Ты яго кіслым малаком напаі,— раіў дзед,—ён акрыяе.

Доўга давялося лячыць пеўніка. Аднак да восені ён сапраўды акрыяў, зрабіўся ціхім, рахманым. Але потым зноў пачаў ганяцца за малымі, а аднойчы на сметніку так адлупцаваў Бобіка, што той заякатаў ад болю і ледзьве ўцёк пад вароты на вуліцу.

* * *

Мінула зіма. Прыгрэла сонейка, ды так моцна, што почкі на дрэвах палопаліся, і з іх вылупіліся кволыя ліпкія лісточкі. Зазелянелі паплавы, закрасавалі кветкі.

Дзедаў певень важнецкі разгульвае па двары, бойка раздзірае нагамі сметнік. Часамі ён узлятае на агарожу, лопае магутнымі чорна-рабымі крыллямі і голасна, так голасна, што ажно грэбень пачырванее, закрычыць:

— Ку-ка-рэ-ку!

Пакрычыць певень, зірне па баках, скокне з агарожы, зноў залапоча крыллямі і паляціць. Сваім лётаннем певень здзіўляў усіх вяскоўцаў.

— Гэта-ж праява, а не певень,—кажа цётка.

— Ды я пяцьдзесят год пражыла на белым свеце, а не бачыла, каб так пеўні лёталі,—кажа другая.

І сапраўды, у Рудні ніхто не памятаў, каб пеўні гэтак маглі лётаць. А лётаў певень дасканала.

Цяпер пеўню быў цесны Базылёў двор. Ён пачаў гуляць па вуліцы і забірацца далёка ў поле, дзе быў пасеяны калгасны ячмень.

Пад'есць певень ячменю, вернецца з поля, забярэцца на страху дзедавай хаты, сядзе на комін, ды як закрычыць:

— Ку-ка-рэ-ку-у-у!..

Потым паціху спусціцца па страсе і скокне на двор.



У гэту вясну з пеўнем здарылася прыгода, і ён пасля гэтага стаў героем на ўсю Рудню.

Ячмень ужо прарос. З зямлі павылазіла сіняватая рунь, заблішчэла крышталікамі раса на кволых пялёстках.

А певень кожны дзень лётае на поле і выбірае непраросшыя зярняткі. Недалёка ад ячменнага поля калгаснікі садзілі бульбу. Мужчыны нукалі на коней, а жанчыны старанна кідалі бульбіну за бульбінай. Праца кіпела.

А нашаму пеўню зусім няма ніякай справы да людзей. Пераляцеўшы цераз плот, ён сеў на ячменнае поле. Людзі ўбачылі яго і пачалі жартаваць:

— У нашага дзеда Базыля не певень, а самалёт!

Між тым певень старанна набіваў свой валляк ячмянём. А тым часам з кустоў вышаў ліс. Ён даўно прыкмеціў пеўня і цяпер пачаў красціся да яго. Прапаўзе ліс, спыніцца, зірне вакол ды зноў паўзе. Вось ён ужо зусім блізка. Яшчэ колькі метраў і — канец пеўню! Але-ж певень заўважыў ліса. А як заўважыў, дык адразу мусіць парашыў, што гэта той самы Бобік, якога ён аднойчы адлупцаваў. А таму што і цяпер певень не вельмі паважаў Бобіка, дык і парашыў пусціць у ход сваю дзюбу і кіпцюры: узляцеў лісу на спіну і давай малаціць яе дзюбаю, аж поўсць сыплецца. Вядома, ліс ніяк не чакаў такой заядлай атакі. Спачатку ён падскочыў, а так як дастаць пеўня на сваёй уласнай спіне справа нялёгкая, дык ліс заскуголіў ад злосці. Тут яго ўбачылі ўсе калгаснікі, закрычалі, засвісталі, замахалі рукамі. Напалоханы ліс кінуўся наўцёкі, а певень, нарэшце, разабраўшыся, што пад ім зусім не Бобік, паімчаўся ў вёску. Там ён узабраўся на страху Базылёвай хаты і доўга на ёй сядзеў, баючыся спусціцца на двор.

* * *

Стаяла спякотнае лета. Курачка Рабка зноў вывела куранят. Яны бегалі за маткай, весела папіскваючы. Гэтым дужа ганарыўся певень і старанна наглядаў за куранятамі. Ён адшукваў ім зярняткі, выкопваў чарвякоў, лавіў мух і жукоў. Знайшоўшы што-небудзь смачнае, певень клікаў да сябе дзяцей:

— Ко-ко-ко-ко!..

Кураняты гуртам акружалі пеўня, а байчэйшы і спрытнейшы з іх хапаў ад яго пачастунак.

Певень абараняў куранят і нікому не даваў іх крыўдзіць.



## ПРАЗ ЛІНІЮ

Гуляюць усім класам або атрадам у густым хмызняку ці на ўзлессі. Кіруе гульнёй важаты або старэйшы з вучняў.

Атрад дзеліцца на два роўныя падраздзяленні, назначаюцца два камандзіры. Другое падраздзяленне застаецца на месцы; першае ідзе наперад на $^1/_2$ — $^3/_4$ кілометры і займае там лінію абароны. Адлегласць паміж кожным «байцом» павінна быць у 15—20 метраў. За лініяй абароны, крокаў за 40—60, чырвонымі сцяжкамі вызначаецца рубеж «горада».

Кожнаму «байцу» другога падраздзялення выдаецца па сіняму сцяжку. Як толькі першае падраздзяленне заняло абарону, кіраўнік свістком падае сігнал, што гульня пачалася.

Задача «байцоў» другога падраздзялення— непрыкметна прабрацца з сцяжком праз лінію абароны ў «горад».

Задача «байцоў» першага падраздзялення— заўважыць наступаючых на тэрыторыі паміж абаронай і «горадам». Кожны заўважаны і затрыманы павінен аддаць свой сцяжок. Пасля гэтага ён ідзе ў «горад».

Гульня спыняецца, калі за лініяй «горада» збярэцца ўсё першае падраздзяленне. Абодва падраздзяленні выстрайваюцца. Падлічваюцца сцяжкі, прынесеныя ў «горад» і адабраныя.

Гульня лічыцца закончанай у карысць наступаючых, калі яны змаглі пранесці ў «горад» не менш паловы сваіх сцяжкоў. Затым гульня пачынаецца спачатку, пры гэтым падраздзяленне, якое абаранялася, павінна наступаць.

Сцяжкі робяцца з чырвонай і сіняй паперы.

# ЦУДОЎНЫЯ ЯЙКІ

*П. МЯДЗВЕДЗЕЎ*

Чулі вы што-небудзь аб Калумбе?

Калумб вядомы не толькі тым, што адкрыў Амерыку. Ён вядомы таксама і як чалавек, які проста рашыў цікавую задачу. Аднойчы ў час абеда госці завялі спрэчкі аб тым, ці можна паставіць курынае яйка вострым канцом уніз. Калумб рашыў гэтую задачу вельмі проста: ён узяў яйка і з невялічкім разгонам паставіў яго на стол. Носік яйка крыху ўватнуўся, і яно стала на стале.

Але потым высветлілася, што гэтую задачу рашыў не Калумб. Хоць яна і вядома, як задача Калумба, але яшчэ да Калумба яе рашыў італьянскі архітэктар Брунілечы, які будаваў вельмі вялікі купал у царкве горада Фларэнцыі. Калі зайшлі спрэчкі аб тым, што такі вялікі купал можа разваліцца, Брунілечы, раззлаваўшыся, крыкнуў:

— Мой купал выстаіць таксама надзейна, як яйка на сваім вострым канцы! — і з разгону паставіў яйка на стол.

Усе вельмі здзівіліся, што яйка стаяла і не падала, і спынілі спрэчкі, бо не здагадаліся, што носік яго ўвагнуўся.

З яйкам можна зрабіць шмат цікавых доследаў і шмат аб чым даведацца. Аб некаторых з доследаў я тут і раскажу. Для ўсіх гэтых доследаў патрэбны тры сырыя курыныя яйкі. З двух яек вы скарыстаеце толькі шкарлупіны, а з саміх яек зможаце спячы сабе яешню, каб закусіць пасля доследаў. Трэцяе-ж яйка прыдзецца ахвяраваць дзеля той прыемнасці, якую вы атрымаеце ад доследаў.



Першае яйка патрэбна зварыць. Вы можаце гэта зрабіць на звычайнай лямпе ў папяровай пасудзіне. Дастаньце лісток досыць тоўстай паперы (як для малявання), выражце з яе квадрат і складзіце яго ўчацвёра. Адхіліце адну частку ад другіх. У вас атрымаецца пасудзіна. Наліце ў пасудзіну вады, палажыце яйка і пачынайце варыць, як паказана на малюнку. Не палохайцеся — ваша «каструля» не згарыць, яна нават і не пажаўцее, бо вада ўвесь час адбірае ад яе цеплыню і не дае ёй нагрэцца да таго, каб загарэцца.

Не вельмі доўга варыце яйка, бо нам патрэбна, каб у сярэдзіне яго засталося крыху мяккага жаўтку, інакш кажучы, каб яно было ўсмятку.



Выньце яйка з «каструлі» і пакладзіце яго каля двух сырых яек. А зараз схадзіце і пашукайце пустую бутэльку з досыць шырокім горлам, але з такім, каб яйка ў яго не праходзіла.

Пакуль вы шукалі бутэльку, дык зусім забыліся, з якога боку вы палажылі варанае яйка. Як яго адшукаць зараз сярод трох яек?

Можна разбіць іх і рашыць задачу, але лепш клічце маму. Яна, напэўна, дасць параду, і вы пабачыце, што ёсць вельмі лёгкі спосаб адшукаць варанае яйка сярод любой колькасці сырых.

Пасля таго, як варанае яйка будзе знойдзена, паспрабуйце раздушыць яго рукамі. Але ў вас не хопіць сілы раздушыць яйка— яно мацней за вас. Такую трываласць яно мае таму, што форма яго падобна на купал. Выходзіць, што Брунілечы сапраўды меў падставу параўноўваць купал з яйкам.

Зараз асцярожна, каб не пашкодзіць самога яйка, трэба разбіць шкарлупку і ачысціць ад яе яйка. Запаліце невялікі кавалак паперы і ўкіньце ў бутэльку. Не чакаючы, пакуль папера патухне, пастаўце ў горла бутэлькі вострым канцом ачышчанае яйка. Вы пабачыце зараз-жа, як яно пачне выцягвацца і ўрэшце залезе ў бутэльку (гл. мал.), дзе зноў выпрастаецца. Бутэльку, калі ў яе будзе ўлазіць яйка, трэба нахіліць, каб яно не разарвалася пры ўдары аб дно. Зараз можна паказаць сябрам сваё першае цудоўнае яйка, якое «вырасла» ў бутэльцы. Яны, напэўна, не здагадаюцца, як зроблен гэты «фокус», бо не кожны з іх ведае, што яйка ўлезла ў бутэльку пад дзеяннем атмасфернага ціску—таксама, як улазіць у банку, якую ставіць доктар, скура чалавека. Пастаўце бутэльку з яйкам на акно—няхай яна здзіўляе ўсіх, хто прыдзе да вас у госці.

У другім яйку асцярожна тоўстай іголкай або прутком пракаліце ў шырокім і вузкім канцах шкарлупкі дзірачкі. Яны павінны быць як мага меншымі.

Цяпер удувайце паветра ў адну з дзірачак, прыклаўшы яйка да рота. З другога канца праз дзірачку пачне выцякаць бялок і жаўток. Збярыце іх у сподачак, бо вам спатрэбіцца толькі шкарлупіна. Прарабіце тое-ж і з трэцім яйкам. Жаўток з бялком можна скарыстаць для яешні.

Шкарлупкі трэба добра высушыць. Няхай яны дні два паляжаць на сонцы, або на цёплай печы. Пасля гэтага праз дзірачку ў адну шкарлупіну трэба насыпаць вельмі сухога дробнага пяску, каб ён заняў каля пятае часткі яйка і заляпіць дзірачкі воскам ці сургучом. У вас атрымалася зараз вельмі цікавая цацка. Скажыце сваім сябрам, што вам трапілася «паслухмянае яйка»; паставіш яго на востры канец—будзе стаяць на вострым, паставіш на тупы—на тупым і застанецца стаяць. Нават, калі вы яго пачнеце ставіць на край талеркі, дык пры некаторым навыку і гэта ўдасца.

У другі раз вы можаце здзівіць сваіх сяброў «непаслухмяным яйкам», якое вельмі лёгка зрабіць з паслухмянага. Праткніце зноў залепленыя дзірачкі і накідайце праз іх у яйка вельмі маленькіх кавалачкаў волава і сургуча. Разагрэйце шкарлупіну так, каб сургуч унутры яе расплавіўся. Пастаўце яйка на востры канец і дайце яму ў такім становішчы ахаладзіцца. Агледзьце дзірачкі і заляпіце іх сургучом.

Кладзіце зараз сваё яйка як хочаце—яно ўсёроўна будзе станавіцца вострым канцом уніз. Калі на шкарлупіцы намаляваць твар чалавека, то атрымаецца цацка, якая вядома пад назвай «Ванька-ўстанька».

Складаней зрабіць цацку пад назвай «вадалаз». Для гэтага можна скарыстаць нашага «Ваньку-ўстанку». Трэба зноў праткнуць дзірачкі, і пры гэтым дзірачку трэба прасвярліць праз сургуч і волава ў вострым канцы яйка.



Усадзіўшы востры канец яйка ў ваду, трэба ротам высмоктваць паветра з дзірачкі ў тупым канцы. Яйка будзе напаўняцца вадой. Дабаўляючы або памяншаючы колькасць вады, трэба дабіцца, каб гэтае яйка, апушчанае ў ваду, амаль усё пагрузілася ў яе. Яно павінна высоўвацца з вады толькі на 2—3 міліметры. Заляпіце сургучом (вельмі шчыльна) дзірачку ў тупым канцы яйка.

Зараз трэба ўзяць шкляны слоік, напоўніць яго вадой і апусціць у ваду яйка. Яно будзе вісець у вадзе вострым канцом уніз. Напоўніце слоік вадой да самага верху. Горла слоіка закрыйце тонкай гумай і моцна абвяжыце ніткай. Пры націсканні пальцам на гуму (гл. мал.) яйка нырне на дно і там спыніцца. Змяняючы ціск, можна апускаць вадалаза глыбей і ўзнімаць наверх.

## ЯК ЗРАБІЦЬ ЛУК

Лук — старажытная зброя чалавека. Але і цяпер ён карыстаецца вялікім поспехам у дзяцей. З добра зробленага лука можна даволі метка страляць па цэлях. Можна нават праводзіць спаборніцтвы на меткасць стральбы.

Як-жа зрабіць лук?



Выражце два дрэўцы аднолькавай формы, таўшчынёй 2,5 — 3 см. Гэтыя дзве часткі злучыце пры дапамозе высечаных зубчыкаў і абматайце медным дротам ці шпагатам. На канцах зрабіце трубкі для цецівы.

Цеціва робіцца з моцнага шпагата, які прапітваецца гарачым ільняным алеем. Пасля гэтага яе трэба моцна нацягнуць і высушыць. Калі цеціва высахне, пратрыце яе анучкай і злёгку памажце парафінам або воскам.

Цеціва нацягваецца туга, але не сцягвае канцоў лука. Даўжыня лука прыкладна 80 — 85 см.

На стрэлах зрабіце з пер'яў стабілізатары — гэта лепш захоўвае напрамак палёту стралы. Як устаўляюцца пер'і — паказана на малюнку.

# ЗАВАЯВАНЫ ЭФІР

## НАРАДЖЭННЕ РАДЫЁ

Рэпрадуктар, які вісіць на сцяне, ці радыёпрыёмнік, які стаіць на стале, цяпер у нас не выклікаюць ніякага здзіўлення. Мы так прывыклі да гэтых рэчаў, што яны сталі нам патрэбны як газета і кніжка. А ўсяго 51 год таму назад нават і не ведалі, што такое радыё. І якое было здзіўленне, калі 7 мая 1895 г. славуты рускі вучоны Александр Сцяпанавіч Папоў паказаў вынайдзеную ім радыёстанцыю—першы ў свеце радыёапарат. Гэтая станцыя перадавала сігналы ўсяго на 27 метраў. Ужо праз два гады Папоў зрабіў першыя вопыты радыёсувязі паміж гаванню і караблём на адлегласці ў 700 метраў.

У 1900 годзе вучоны змог перадаць радыёграму на адлегласць у 44 кілометры. Дзякуючы гэтай радыёграме былі выратаваны 27 рыбакоў, аднесеных у мора на ільдзіне. Гэта было першае практычнае прымяненне радыё.

## РАДЫЁ НА СЛУЖБЕ Ў ЧАЛАВЕКА

З таго часу шмат змен адбылося ў радыётэхніцы. Непадобнымі на ранейшыя сталі радыёпрыёмнікі і перадатчыкі. Пры дапамозе радыё (тэлевізійнымі апаратамі) перадаюцца светавыя малюнкі. Так, седзячы ў кватэры, можна глядзець кіно, якое паказваецца ў Маскве, Лондане і нават Н'ю-Ёрку. Пры дапамозе радыё можна кіраваць самалётам без лётчыка. Складаныя апараты (радыёзонды) падымаюцца на паветраных шарах на некалькі тысяч кілометраў у паветра і сігналізуюць адтуль, якая там тэмпература, які рух паветра і іншае. Гэта дапамагае зараней прадугадваць надвор'е.

Радыё стала неабходнай прыналежнасцю не толькі кожнага горада і вёскі, але і кожнага карабля, самалёта, рыбацкага судна.

## РАДЫЁ Ў АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ

Вялікую ролю адыграла радыё ў Айчыннай вайне. Радысты своечасова перадавалі загады камандзіраў, трымалі сувязь з танкамі, якія ішлі ў атаку, з самалётамі, якія штурмавалі пярэдні край варожай абароны, кіравалі агнём артылерыі, трымалі сувязь з партызанамі.

Вядома, што ў баях пад Сталінградам Чырвонай Арміяй было выкарыстана 9 тысяч радыёстанцый, а пры вызваленні Беларусі ад нямецкіх захопнікаў у 1944 годзе прымала ўдзел адначасова 27 тысяч радыёстанцый.

## РАДЫЁ БАЧЫЦЬ

Навейшым і цікавейшым вынаходніцтвам у радыётэхніцы з'явіўся цудоўны апарат—радыёлакатар.

Уявіце сабе такі малюнак. Цёмная ноч. Варожыя самалёты ляцяць бамбіць горад, спадзяючыся, што ў цемені іх ніхто не заўважыць. Але, як толькі яны з'яўляюцца над нашымі пазіцыямі, зенітчыкі і знішчальнікі пачынаюць трапна па іх страляць. Дзіўныя рэчы адбываліся ў час Айчыннай вайны з нямецкімі падводнымі лодкамі. Як толькі перыскоп (наглядальная труба) падводнай лодкі паказваўся на паверхні, лодка зараз-жа трапляла пад агонь. Яе нават ноччу выяўлялі за многа дзесяткаў кіламетраў.

Хто-ж яе бачыць? І вось, аказваецца, бачыць яе тэты незвычайны апарат—радыёлакатар. Вядома, што радыёхвалі часткова адбіваюцца ад электрычных праваднікоў і вяртаюцца назад. Таксама вядома, што распаўсюджваюцца яны з хуткасцю 300 тыс. кілометраў у секунду. А калі вылічыць, праз які час радыёсігнал, ударыўшыся ў борт самалёта ці карабля, вярнуўся назад, лёгка вызначыць адлегласць. Усю тэтую работу выконвае спецыяльная прылада радыёлакатара. У час Айчыннай вайны пры дапамозе радыёлакатара англічане патапілі ноччу нямецкі лінкор «Шарнхорст» і шмат іншых японскіх і нямецкіх ваенных караблёў.

Нядаўна з зямлі быў пасланы магутны радыёсігнал на Луну. Праз дзве з паловай секунды ён вярнуўся назад да прыёмніка радыёлакатара. Так чалавек нібы ўласнымі рукамі дакрануўся да паверхні Луны.

## ПА ПЛАНУ ПЯЦІГОДКІ

У нашай краіне радыё атрымала вялікае развіццё толькі пры савецкай уладзе. У нас пабудаваны самыя магутныя ў свеце радыёстанцыі, створаны заводы, якія вырабляюць самыя складаныя радыёапараты.

Вялікае значэнне развіццю радыётэхнікі надаецца ў чацвертай Сталінскай пяцігодцы. Ужо ў гэтым годзе для насельніцтва будзе выпушчана 360 тысяч прыёмнікаў—у тры з паловай разы больш, чым выпускалася да вайны. За ўсю пяцігодку заводы выпусцяць больш 3 мільёнаў прыёмнікаў.

Аднавіўся і пачаў выпускаць выдатныя прыёмнікі і Мінскі радыёзавод імені Молатава. Да канца пяцігодкі ён выпусціць для насельніцтва шмат тысяч радыёпрыёмнікаў.

С. Турчыновіч.

# ШАХМАТЫ

## ПРАВІЛА РАКІРОЎКІ

У шахматнай ігры, акрамя звычайных ходаў караля і ладдзі, гэтыя дзве фігуры могуць зрабіць яшчэ вельмі цікавы ход, які называецца ракіроўкай. У старажытнай шахматнай ігры такога хода не было, і ён пачаў ужывацца толькі з XVI стагоддзя. Мэта гэтага хода — хутчэй захаваць караля ад небяспекі нападу варожых фігур і ўключыць у ігру ладдзю.

Ракіроўка робіцца так: ладдзя ставіцца побач з каралём, а кароль адразу-ж перастаўляецца праз ладдзю. Паколькі ёсць дзве ладдзі, на вертыкалях a h, то ракіроўка ладдзі a1 і a8 з каралём называецца вялікай, а ладдзі h1 і h8 з каралём называецца малой ракіроўкай.

Ход «ракіроўка» запісваецца так:

0-0—малая ракіроўка;

0-0-0—вялікая ракіроўка.

Рабіць ракіроўку нельга ў наступных выпадках:



1. Калі паміж каралём і ладдзёй стаіць якая-небудзь фігура (свая ці варожая);

2. Калі кароль ці адпаведная ладдзя рабілі ўжо хоць адзін ход;

3. Калі кароль стаіць пад шахам;

4. Калі кароль ці ладдзя пасля ракіроўкі становіцца пад удар любой варожай фігуры.

На малюнку мы бачым, што белыя ўжо зрабілі вялікую ракіроўку, маглі зрабіць і малую. Чорныя-ж вялікай ракіроўкі рабіць не могуць, бо ладдзя становіцца пад бой белага слана.

## З ГІСТОРЫІ ШАХМАТ

Шахматная ігра мае сваю вялікую гісторыю. Яна ўзнікла ў глыбокай даўнасці на аснове шашачнай ігры. Так, грэчаскі філосаф Герадот, які жыў за 500 год да нашай эры, расказвае аб тым, што фараон Рамжыніт іграў у шашкі. У Брытанскім музеі, на старажытных калонных плітах, ёсць такі малюнак: за сталом сядзяць два ігракі; адзін з іх трымае фігуру, нібы рыхтуючыся зрабіць ход.

«Продкам» шахмат з'яўляецца індуская ігра. Гэтая ігра нагадвала сабою гульню ў вайну. Шахматная дошка была полем бітвы. Фігуры падзяляліся на два варожыя станы, на чале якіх стаяў кароль. Ішла барацьба за яго жыццё.

У той час індускае войска мела ў сваім складзе пехацінцаў, коннікаў, сланоў і караблі (лодкі). Адсюль пайшла і назва шахматных фігур: пешка, Конь, Слон, Ладдзя. З Індыі, у VII—VIII стагоддзях, шахматы перайшлі ў Азію. Асабліва пашырыліся яны ў арабаў. Ад арабаў, у IX стагоддзі, гэтую ігру пераймалі італьянцы і іспанцы.

Аднак у шырокія народныя масы шахматная ігра пранікла толькі ў XVI стагоддзі. З гэтага часу пачалі праводзіцца шахматныя спаборніцтвы, з'явіліся выдатныя майстры, якія ўжо давалі сеансы адначасовай ігры на некалькіх дошках.

У Расіі вялікім прыхільнікам шахматнай ігры быў Пётр I. Сам рана пазнаёміўшыся з шахматамі, ён загадаў для свайго сына Аляксея «зрабіць і напісаць па золату дошкі шахматныя, мерай у аршын, шырынёй па размеру».

З часу Пятра I шахматы ў Расіі пачалі пашырацца яшчэ больш. У 1860 г. у Санкт-Пецербургу (цяперашнім Ленінградзе) быў адкрыты першы ў Расіі шахматны клуб. Галоўнымі членамі клуба былі Чэрнышэўскі, Пісараў, Кастамараў, Памялоўскі і іншыя перадавыя людзі таго часу.

З канца XIX і пачатку XX стагоддзя рускія майстры становяцца ўжо вядомымі і далёка за межамі. Але найбольш буйным арганізатарам шахматнай справы ў Расіі быў М. І. Чыгорын (1850—1908). Ён стварыў рускую шахматную школу.

У Совецкім Саюзе шахматы сталі сапраўды народнай ігрой, а совецкія шахматысты—самымі выдатнымі ў свеце.

---

Заўвага. У № 4 часопіса памылкова надрукавана становішча чорнага Караля.

Трэба чытаць: Кре 3

**С. Турчыновіч.**

## ЯК УЗНІКЛА СЛОВА «ІНДЗЕЕЦ»?

Мы ўсе ведаем, што Калумб у 1492 годзе адкрыў Амерыку.

Але сам Калумб гэтага не ведаў.

У той час шлях у казачную Індыю, аб багаццях якой апавядалі цуды, быў цяжкі і далёкі. Ведаючы, што зямля—шар, Калумб парашыў знайсці просты марскі шлях у Індыю. Калі, пасля доўгага падарожжа, яго караблі, нарэшце, прысталі да зямлі, ён вырашыў, што гэта і ёсць Індыя.

А калі краіна—Індыя, дык жыхары яе, вядома, індзейцы.

Пазней даведаліся, што Калумб адкрыў новую, яшчэ невядомую частку света. Але памылкова дадзеная назва яе жыхарам захавалася да нашага часу. Карэнных жыхароў паўднёвай Амерыкі і цяпер называюць індзейцамі.

Праз гэту-ж гістарычную памылку ўзнікла слова «індык«, бо гэтая птушка была ў той час прывезена з Амерыкі.

## ЦІ ЛЮБІЦЬ ПАВУК МУЗЫКУ?

Хатні павук жыве ў хлявах, стайнях, на складах. Яго можна знайсці і ў пакоі неахайнага чалавека. Дзе-небудзь у кутку расцягнута густая сетка павука. Побач з ёю—шчыліна, у якой хаваецца сам павук. Трапіць у павуціну муха, замітусіцца ў ёй—затрымцяць павуцінкі. Гэта сігнал: у сетку трапіла здабыча. Павук выскачыць з свае шчыліны, падбяжыць да мухі. Вось ён і пааобедае.

Расказваюць, што хатні павук вельмі любіць музыку: зайграюць на скрыпцы і—павук спускаецца па павуцінцы ледзь не на галаву скрыпача. Вісіць на павуцінцы і быццам слухае. Цікава: павук—аматар музыкі!

Толькі не з усякім павуком так бывае. Іншага ні за што музыкай не прывабіш: не выходзіць з свае шчыліны, колькі ні іграй.

У чым тут сакрэт?

Трымценне павуцінкі—сігнал, што здабыча злоўлена. А павуцінка можа затрымцець і ад ігры скрыпкі. Здабычы няма, а павуцінка ўсё трымціць і трымціць. Вось і вісне на ёй павук, чакае здабычы.

Але не ўсякая павуцінка затрымціць ад ігры на скрыпцы. Патрэбна павуцінка, якая магла-б адгукацца на гук струны. Ёсць такая павуцінка ў павуціне—яна і затрымціць. А няма такой павуцінкі—павука не выманіш.

Сакрэт не ў павуку, а ў павуцінцы.

## ЗМЕСТ



На вокладцы: выхаванкі Мінскага дзіцячага дома № 6 Светлана Берыленка і Вера Мірановіч. Фота В. Лупейкі.

На ўкладках: І. В. Сталін і А. М. Горкі—з карціны А. Герасімава. Птушкалоў—з карціны В. Перова.

«БЕРЕЗКА»—на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55. Дом Друку.

Адказны рэдактар А. Якімовіч.

АТ 02563 Здадзена ў набор 10/V—46 г. Падпісана да друку 21/VI—46 г. Друк арк. 3

Друкарня імені Сталіна, Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10000 экз. Зак. 176.

### АРЫФМЕТЫЧНЫЯ ЗНАКІ



Размяркуйце на клетках арыфметычныя знакі так, каб у кожнай гарызанталі, вертыкалі і дыяганалі былі ўсе чатыры знакі.

### ТРЫ ТОМЫ

На ніжняй паліцы ў Пеці стаялі па чарзе тры томы твораў Чэхава. Пеця пахваліўся свайму сябру, што ён прачытаў ад першай старонкі першага тома да апошняй старонкі трэцяга тома.

Як вы думаеце: колькі старонак прачытаў Пеця, калі вядома, што ў I томе—286 старонак, у II—224, а ў III—300?

Не спяшайцеся з адказам—вы можаце памыліцца.

### ЛАГАГРЫФ

Як іступжкай упрыгожыш,
Дык дзяўчынка насіць можа;
Пастаў «М» на месца «С»—
Я ракою разальюся
І ў Волгу паімчуся
Цераз поле, цераз лес.

### ДВА РЭБУСЫ

Адгадаўшы рэбусы, вы прачытаеце дзве народныя прыказкі.







## Адказы на задачы, змешчаныя ў № 3

Задачка з капейкамі: трэба скласці капейкі трохкутнікам так, каб кожная старана мела тры капейкі.

Загадка: мухамор.

Шарада: барсук.

Лагагрыф: Рым—дым.

Галаваломка: Ганчароў «Абломаў».

Задачка-жарт: 35 дзён; 90 паралель з'яўляецца кропкай полюса і падарожжа там немагчыма.

КРАСВОРД.

Па гарызанталі: 1. Параход. 3. Анка. 5. Зубр. 7. Лапта. 8. Бурак. 9. Алё. 10. Язь. 11. Клык. 13. Бяда. 16. Горад. 18. Канал. 20. Плаха. 22. Ледаход. 26. Ікра. 27. Охра. 28. Оля. 30. Мічурын.

Па вертыкалі: 1. Парад. 2. Дзюба. 4. Напілак. 6. «Бярозка». 12. Лімон. 14. Дудка. 15. Градка. 16. Галлё. 17. Дупло. 19. Асака. 21. Хмара. 22. Лань. 23. Дэпо. 24. Хвоя. 25. Доля. 29. Лгун.

Цана 5 руб.



# ПРЫГОДА З НАТУРАЛІСТАМ

*Мал. А. Волкава*
















